# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С-ГАСПАДАРКІ



№3

САКАВІК 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ [illegible]

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ




ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 3 (9) | Сакавік | 1930 г.

## Арганізуем працу ў калгасах

Бяз правільнай арганізацыі працы калгасы ня сумеюць практычна скарыстаць свае вялікія перавагі перад сялянскай гаспадаркай, каб ужо ў гэтую-ж вясеньнюю с.-г. кампанію ня толькі замяніць (гэтага мала), але і абагнаць ліквідуемую кулацкую вытворчасьць. Бяз правільнай організацыі працы нельга таксама перамагчы дробна-ўласьніцкія прывычкі ўнутры калгасу, нельга ператварыць беднату і серадняцтва ў сьвядомых удзельнікаў калектыўнае вытворчасьці. Па гэтай прычыне няма ніякага дзіва, што пытаньні арганізацыі працы ў калгасах зьяўляюцца аблюбаванай тэмай кулацкай агітацыі. Так, напрыклад, кулак спрабуе з'агітаваць серадняка, што ён у калгасе будзе працаваць на „гультая“-бедняка, які будзе гуляць і жыць на серадняцкім карку. Адсталаму бедняку кулак стараецца прывіць розныя рвацкія настроі адносна калгасу. Адным словам, пытаньні арганізацыі працы зьяўляюцца адным з аб'ектаў клясавае барацьбы паміж кулаком і калгасам.

Вялікі ўздым вытворчасьці калгасаў—вось асноўная задача арганізацыі працы ў іх. Выкананьне гэтай задачы немажліва без вырашэньня цэлага шэрагу новых пытаньняў, якія не стаялі перад дробнымі гаспадаркамі. Загэтым калгасьнікам трэба скарыстаць вопыт прамыслоловасьці і саўгасаў.

Усё-ж у калгасах яшчэ ёсьць асаблівасьці, якія адрозьніваюць іх ад усякіх іншых буйных прадпрыемстваў, таму памылкі ў такой новай і складанай справе, як ператварэньне ўсёй арганізацыі сялянскай працы, амаль няўхільны. Аднак, гэтыя памылкі павінны быць у мінімальнай ступені, павінны быць як выключэньне, а не як правіла.

Вопыт калгасаў, якія арганізаваліся раней, паказвае, што арганізацыя тэрыторыі калгасу дапамагае арганізацыі працы ва ўсіх галінах сельскае гаспадаркі.

Якім-жа чынам нашы калгасы, асабліва буйныя, будуюць сваю структуру, каб найлепш вырашыць асноўную задачу падняцьця вытворчасьці. Зараз калгасы, як вядома, у многіх мясцох вышлі за межы аднаго сяла. Некаторыя з іх дасягаюць да 50 тысяч гектар. Няма сумненьня, што ў далейшым калгасы будуць яшчэ расьці і ўзбуйняцца.

Па гэтай прычыне калгасы паказаных разьмераў ня могуць кіраваць сваёй гаспадаркай без падсобных органаў. Таму такія калгасы дзеляцца на вытворчыя вучасткі, якія займаюць прыблізна тэрыторыю аднаго сельсавету.

Вытворчы вучастак, як і сельсавет, ахоплівае некалькі населенных пунктаў. Праўленьне буйнага калгасу якраз у сваёй працы і апіраецца на вучастковы камітэт, які выбіраецца на сходзе ўпаўнаважаных вучастку. Вучастковы камітэт мае дзьве дапаможных камісіі: вытворча-тэхнічную і культурна-бытавую.

Вучастковы камітэт звычайна складаецца з 5 таварышоў і разьмяркоўвае працу наступным чынам: адзін таварыш кіруе працай вытворча-тэхнічнай камісіі, другі—культурна бытавой камісіі, трэці загадвае гаспадаркай вучастковага маштабу, чацьверты вядзе агра-работу і пяты—старшыня, вядзе агульнае кіраваньне.

Паселішчы ў межах вытворчага вучастку адыгрываюць і будуць яшчэ некаторы час адыгрываць значную ролю ў арганізацыі вытворчасьці працы ўнутры гэтых вучасткаў. Каб ня было лішніх перакідваньняў людзей, рабочае жывёлы і прасьцейшага інвэнтару варта паасобныя вучасткі агульных палёў севазвароту абслугоўваць бліжэйшымі паселішчнымі пунктамі.

Вытворчы вучастак у першы пэрыяд арганізацыйнага фармаваньня буйнага калгасу лепш за ўсё разьмяркуе сваю працу калі будзе мець гібкае нізавое зьвяно—брыгаду, якая ўключае ў сябе 25—30 двароў.

Вопыт лепшых буйных калгасаў паказвае, што склад брыгады павінен мець ня больш 25—30 работнікаў, бо больш буйныя брыгады цяжэй падаюцца правільнаму разьмеркаваньню працы. Работай брыгады кіруе брыгадзір, які ўлічвае колькасьць і якасьць затрачанай кожным калгасьнікам працы.

Вытворчы вучастак разьбіваецца на падвучасткі, на якіх фарміруюцца элемэнты арганізацыі вытворчасьці (рабочая сіла, сродкі вытворчасьці, цягавая сіла і г. д.). Брыгадзір атрымлівае нарад ад вучкому ў пэрыяд падрыхтоўкі да правядзеньня с.-г. прац і на ўсім іх працягу трымае сувязь з вучкомам.

Вядома, што арганізацыя рабочай сілы на вучастку патрабуе дакладнага вучоту праробленай работы і такой пастаноўкі вучоту, каб кожны калгасьнік мог праверыць у брыгадзіра і ведаць хоць раз у тыдзень, два тыдні, колькі ён зарабіў.

Важнае месца ў арганізацыі працы ў калгасах займае разьмеркаваньне і аплата працы. Лепшыя калгасы дзеляць усіх працаздольных на сталую і зьменную працоўную сілу. У першую вылучаюцца калгасьнікі, праца якіх патрабуе падрыхтоўкі і навычак—трактарысты, кавалі, цесьляры і інш. Астатнія калгасьнікі складаюць зьменную рабочую сілу, якая пасылаецца ў залежнасьці ад сэзону і іншых абставін на розныя работы. Сталая рабочая сіла аб‘ядняецца ў сталыя брыгады, а зьменная—або ў сэзонныя брыгады, або часова ў сталыя (напрыклад, сяўцы ў трактарныя брыгады). Ясна, што не заўсёды можна вырашыць пытаньне, якая работа сталая, а якая зьменная. Але-ж ясна разам з тым, што сталая рабочая сіла павінна быць прымацавана да ўсіх работ, выкананьне якіх вышэй звычайнага сялянскага ўзроўню.

Спэцыялізацыя працы ў калгасах выключае роўнасьць у аплаце сяброў калгасу. Трэба даць адпор такім настроям, калі хочуць за розныя работы атрымліваць роўную плату. Практыка калгасаў уста-

наўлівае тарыфныя сеткі з невялікай колькасьцю разрадаў. Суадносіны паміж крайнімі разрадамі не павінны значна розьніцца ад 1:2.

Лепш за ўсё калі работа разьмяркоўваецца роўнамерна паміж працаздольнымі з вучотам спэцыяльнасьці. Сыстэма аплаты па едаках, якая затрымлівала вытворчасьць працы, і таму зусім не вартая, забясьпечвала існаваньне непрацаздольных і інтарэсы тых сямей, у якіх на 1 працаздольнага прыходзіцца больш дзяцей, старых і хворых, чым у другіх сем'ях.

Аплата колькасьці і якасьці працы ў буйным калгасе ня можа быць праведзена без нарміроўкі. Тыя нормы выпрацоўкі, якія выпрацаваны кіруючымі органамі як Белкалгасцэнтр і інш., бязумоўна, не павінны пераносіцца мэханічна для ўсіх умоў. Прыходзіцца ўлічваць такія падрабязнасьці, як якасьць машын і працоўнай жывёлы, якасьць рознай глебы, падрыхтаванасьць працаўніка і г. д.



Калгасьнікі здаюць задаткі на трактары (Уваравіцкі раён, Гомельскай акругі).

Вопыт працы паказвае, што сыстэма зьдзельнай аплаты працы ў даны час зьяўляецца найбольш жыцьцёвай. На практыцы зьдзельная аплата дае добрыя вынікі, калі пры ўвядзеньні яе прадумаць і прадугледзець тыя адмоўныя бакі, якія ёсьць і ў гэтай сыстэме. Асабліва востра пры зьдзельшчыне паўстае пытаньне аб якасьці работы. За гэтым сыстэма вылікаў з аплаты за дрэнную працу і прэмій за якасьць працы вышэй сярэдняй зьяўляецца абавязковай.

Некаторыя калгасы ўводзяць мэтады прыблізнага вучоту якасьці работы, напрыклад, першая катэгорыя—лепшая работа, другая—сярэдняя работа, трэцяя—ніжэй сярэдняй, чацьвертая—дрэнная работа, пятая—брак. Выходзячы з гэтай якаснай ацэнкі пры разьліку аплата робіцца: за першую катэгорыю—вышэй на 10 проц., за другую—нармальная аплата, за трэцюю ніжэй на 10 проц., за чацьвертую—ніжэй на 30 проц., за пятую—зусім ня плацяць.

Бязумоўна, устанавіць фактычны разьмер аплаты справа—вельмі цяжкая. Загэтым мэтазгодна ўстанавіць такі парадак: у пачатку гаспадарчага году праца расцэньваецца ўмоўна. На працягу году калгасьнікі атрымліваюць авансы ў лік аплаты, якія заносяцца ў разьлікавую кніжку калгасьніка. Пасьля высьвятленьня рэзультатаў гаспадарчага году, пакрыцьця ўсіх другіх страт вытворчасьці і забесьпячэньня накапленьня робіцца канчатковы разьлік аплаты працы. Калі ўраджай аказаўся ніжэй, чым меркавалі—аплата зьніжаецца, калі ўраджай вышэй, чым меркавалі—мажліва некаторае падвышэньне аплаты.

Але-ж гэты парадак добры ў поўнай меры толькі ў старых калгасах і ў нармальныя гады. Зусім мала яшчэ высьветлена пытаньне пра аплату працы ў новых калгасах у год іх узьнікнавеньня. Мы маем пераважную большасьць калгасаў, заснованую ўзімку гэтага году. Ураджай і другія прадукты сельскай гаспадаркі, таксама частка выручкі за хлеб, мяса і г. д. за вылікам плацяжоў, паёў і куплі прамтавараў засталіся на руках у сяброў калгасаў. Калгас яшчэ ніякіх запасаў харчаваньня ня мае. Выдаваць зараз-жа такія авансы, як звычайна, значыць для новых калгасаў праядаць капітал, біць па гаспадарцы калгасу. Загэтым лепш за ўсё авансы да новага ўраджаю выдаваць толькі, як правіла, батрацтву і беднаце, забясьпечваючы іх мінімальныя патрэбы (уся сума авансаў не павінна перавышаць 20% агульнага фонду аплаты). Далей новыя калгасы павінны ўлічваць пры ўмоўных расцэнках і пры канчатковым разьліку, што з будучага ўраджаю трэба забясьпечыць ня толькі аплату працы ў гэтым годзе, але і зваротныя сродкі.

Правільнае вырашэньне гэтага пытаньня зьяўляецца абавязковай умовай разьвіцьця калгаснай гаспадаркі. Бязумоўна, што ня толькі ў новых, але і ў старых калгасах трэба перамагаць спажывецкія тэндэнцыі часткі калгасьнікаў, якія падпалі кулацкай агітацыі. Гэта праяўляецца, напрыклад, у зьмяншэньні таварнага выхаду прадукцыі малочнай жывёлы: пасьля абагуленьня кароў у некаторых калгасах спыніліся масла-сыра-заводы. Толькі на аснове выкананьня гэтай задачы, магчыма і падняцьце калектыўнай вытворчасьці і палепшаньне матар'яльна-бытавога становішча калгасьнікаў.

Працоўная дысцыпліна ў новаарганізаваных, а таксама і старых калгасах, патрабуе значнай да сябе ўвагі, тым больш, што найменш сьвядомая частка калгасьнікаў яшчэ часам лічыць калгас чужой гаспадаркай, яшчэ ня ўцяміла сабе таго, што праца ў калгасе ёсьць праца на сябе.

Працоўная дысцыпліна мажліва толькі пры адзінаначальлі ў працэсе вытворчасьці. Кіраўнік працы адказвае перад выбарным праўленьнем, яго можна і трэба крытыкаваць на агульных сходах, вытворчых нарадах і г. д., але ў часе работы загады кіраўніка павінны бязумоўна выконвацца. Загэтым і невыкананьне загадаў кіраўніка ў часе работ трэба аднесьці да асобашкодных парушэньняў працоўнай дысцыпліны ў калгасе.

У якасьці мер узыску за парушэньне трудавой дысцыпліны ў калгасах ужываецца выгавар, часовае выключэньне з калгасу, поўнае выключэньне, вылік з аплаты за дрэнную работу, за невыкананьне нормы выпрацоўкі, за свавольны ўход з работы, за прагулы. Разам з тым можна выдаваць прэміі за добрую якасьць работы, эканомію матар'ялаў, вынаходніцтва, найбольш каштоўныя прапановы аб палепшаньні гаспадаркі.



Камуна „Авангард“, Калінкавіцкага раёну, Мазырскае акругі. Уверсе—каровы на вадапоі, унізе—пабудова агнятрывалага дому.

Узыскі і прэміі маюць вялікае значэньне. Але бязумоўна важней выхаваўчая работа, растлумачальная работа, уцягваньне шырокіх мас калгасьнікаў у абгаварэньне і абмеркаваньне пытаньняў арганізацыі вытворчасьці і працы, разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва.

Гэтая праца яшчэ недастаткова шырока пастаўлена ў калгасах. Вытворчыя нарады яшчэ ня ўсюды створаны, яшчэ часам яны дрэнна працуюць, хоць сям-там яны працуюць ужо ня дрэнна. Але гэта толькі пачатак тае вялікае масавае работы вытворчых нарад, якая павінна быць разгорнута ў калгасах разам з разгортваньнем сацыялістычнага спаборніцтва.

Тая адносная перанаселенасьць, якую мы маем у БССР, ставіць перад многімі нашымі калгасамі пытаньне аб скарыстаньні збыткавай рабочай сілы, якая ў далейшым будзе „зьнята“ сацыялістычным разьвіцьцём вытворчых сіл на грунце індустрыялізацыі і калектывізацыі. Але ўжо і зараз правільная арганізацыя калгаснай вытворчасьці можа ў значнай ступені вырашыць гэтае пытаньне.

Галоўная ўвага калгасу павінна быць накіравана на скарыстаньне ўсіх запасаў працы ў самым калгасе. Гэтае скарыстаньне павінна пайсьці на разьвіцьцё такіх працаёмкіх галін, як жывёлагадоўля, птушніцтва, гародніцтва, садоўніцтва і г. д., гэта значыць па лініі інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, гэта значыць, што разьвіцьцё гэтых галін павінна быць зьвязана з узмоцненым будаваньнем прадпрыемстваў па перапрацоўцы с.-г. прадуктаў. Таксама ў калгасах варта ўзмацняць таннае будаўніцтва з мясцовага матар'ялу, якое неабходна зараз для гаспадарчых і культурных патрэб калгасаў, а таксама ўзмацніць работу па палепшаньню дарог, па капаньню калодзежаў, па насаджваньню лесу, па асушцы балот, ды інш. мэліарацыях.

Апрача работы ў вышэйпамянёных галінах сельскае гаспадаркі калгасы могуць правесьці зімою цэлы шэраг другіх масавых работ.

Бязумоўна, што ўсе гэтыя меры не вырашаюць пытаньня аб сэзоннасьці с.-г. працы, якое можа быць вырашана толькі злучэньнем прамысловасьці і земляробства. Але кожны калгас павінен скарыстаць усе магчымасьці зімовай працы для ўзмацненьня свае гаспадаркі, для разгрузкі веснавога пэрыяду і для вытворчай змычкі членаў калгасаў, якія адразу-ж пасьля ўступленьня ў калгас павінны максымальна ўцягвацца ў агульную работу.

Можна было-б пералічыць яшчэ цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія зьвязаны непасрэдна з арганізацыяй працы ў калгасах, цэлы шэраг другіх пытаньняў, як арганізацыя палявых работ, сыстэма вучоту, тэхніка разьлікаў і інш. Многія з гэтых пытаньняў яшчэ патрабуюць практычнай праверкі і грамадзкага абмеркаваньня. Гэтая практычная праверка бязумоўна магчыма толькі ва ўмовах практычнай працы ў калгасах. Трэба ўсім лепшым калгасам, якія дабіліся ў арганізацыі працы значных посьпехаў, асьвятляць у друку тыя мэтады і формы арганізацыі працы, якія далі ім найлепшыя вынікі. Толькі на аснове скарыстаньня вопыту ўсёй калгаснай сыстэмы будзе выканана з найменшымі цяжкасьцямі арганізацыя калектыўнай вытворчасьці. Перад намі стаіць вялізарная работа правільнай арганізацыі працы ў пераважнай большасьці калгасаў. Час не чакае. Гэтая работа не павінна адкладацца ні на кроплю.

Правільная арганізацыя працы—аснова бальшавіцкай веснавой сяўбы ў калгасах.

# Прыкладная рабочая праграма веснавой сяўбы ў калгасах

*(Ухвалена праўленьнем Калгасцэнтру СССР 1 сакавіка 1930 г.)*

## 1. ЗЯМЛЯПАКАЗАНЬНІ, УЛІК ЗЯМЕЛЬНЫХ ПЛОШЧАЎ І РАЗЬБІЎКА ІХ ПА ВЫТВОРЧЫХ ВУЧАСТКАХ (ПАСЁЛАК)

Да выезду ў поле выконваюцца наступныя падрыхтоўчыя да сяўбы работы:

Зямляпаказаньні, улік зямельных плошчаў і разьбіўка іх па вытворчых вучастках (пасёлак).

Устанавіць межы ўсёй зямельнай плошчы ў калгасах.

Зямельная плошча ў калгасах і вытворчыя вучасткі разьбіваюцца на палі пад засеў збожжавых, прапашных культур, калектыўных гародаў і г. д.

Вытворчыя вучасткі разьбіваюцца на палі такім чынам, каб стварыць буйны масыў аднастайных культур.

У калгасе, які складаецца з некалькі сёл, кожнае сяло плошчаю ня менш 400—500 гект. прадстаўляе сабой вытворчы вучастак.

Разьмяшчэньне вытворчага вучастку павінна быць разьлічана так, каб ён мог быць абслужаны, як правіла, з населенага пункту.

Работа выконваецца: групай членаў калгасу пад кіраўніцтвам назначанага праўленьнем кіраўніка.

Тэрмін выкананьня ўстанаўляецца праўленьнем калгасу, але не пазьней, чым за 10 дзён да пачатку сяўбы.

## 2. ПАДРЫХТОЎКА РАБОЧАЕ СКАЦІНЫ ДА СЯЎБЫ

а) Уся рабочая скаціна падзяляецца на здольных выконваць цяжкія работы (ворыва, засеў радковымі сявяркамі, дыскаваньне і гэтак далей) і больш лёгкія работы (баранаваньне, раскідваньне насеньня і г. д.), сюды ўваходзіць рабочы маладняк і каровы, дзе гэта неабходна;

б) вылучаецца дармовы фонд; за два тыдні да сяўбы скаціны ўзмоцнена падкармліваецца;

в) у кожным паселішчы вылучаецца адзін з калгасьнікаў для аказаньня першай вэтдапамогі пры захворваньні скаціны. Гэтыя калгасьнікі дапускаюцца да работы пасьля інструктаваньня ў мясцовых вэтпунктах.

Работа выконваецца групай членаў калгасаў, пры ўдзеле вэтпэрсаналу, пад кіраўніцтвам старшага кіраўніка, назначанага праўленьнем.

## 3. ПАДРЫХТОЎКА І РАМОНТ СЕЛЬ.-ГАС. МАШЫН І ТРАНСПАРТУ

а) З абагуленых машын, прылад і транспарту адбіраецца спраўны інвэнтар у колькасьці, патрэбнай для веснавой сяўбы. Зношаны і пастарэлы інвэнтар (сохі, бараны з драўлянымі зубамі, неўдасканаленыя плугі і інш.) бракуецца. У выпадку недахвату наяўнага інвэнтару для выкананьня пляну палявых работ, не хапаючы інвэнтар набываецца ў машыназабясьпечваючых арганізацый;

б) для сканчэньня рамонту і праверкі спраўнасьці машын, транспарту і інш. інвэнтату, прызначаных для веснавых палявых работ, мабілізуюцца ўсе калгасьнікі: кавалі, майстравыя, цесьляры, сталяры, бондары і інш.;

в) увесь інвэнтар разьмяркоўваецца загадзя паміж брыгадамі ў адпаведнасьці з іх вытворчымі заданьнямі.

Работа выконваецца групай членаў калгасу пад кіраўніцтвам старшага кіраўніка;

г) арганізаваць паходныя майстэрні для рамонту інвэнтару на полі.

## 4. НАСЕНЬНЕ

а) Устанавіць нормы высеву насеньня па кожнай культуры;
б) зрабіць праверку ўсхожасьці насеньня;
в) загатовіць патрэбную колькасьць матар'ялаў для пратручваньня;
г) загатовіць і сабраць у членаў калгасу мяккую тару;
д) устанавіць парадак падвозкі, хаваньня і аховы насеньня ў часе сяўбы;
е) устанавіць месца і спосаб пратручваньня насеньня;
ж) загадзя разьвесьці насеньне па вучастках.

Работа выконваецца спэцыяльнай групай членаў калгасу пад кіраўніцтвам і адказнасьцю кіраўніка групы, з абавязковай кансультацыяй пратручваньня насеньня аграномам.

## 5. ФУРАЖ

а) На падставе мясцовай практыкі і гаспадарчых магчымасьцяй устанавіць нормы кармленьня рабочае жывёлы да сяўбы і ў час сяўбы;

б) сабраць аб'ёмісты і канцэнтраваны корм у адзіны фонд;

в) устанавіць парадак падвозкі кармоў, вады, кармленьне скаціны ў часе сяўбы;

г) устанавіць парадак хаваньня і забясьпечыць захаванасьць фуражу на полі. Вылучыць спэцыяльных фуражыраў.

## 6. ЗБРУЯ

а) Забясьпечыць кожную галаву рабочае скаціны загадзя ўсёй патрэбнай збруяй (хамуты, постромкі, сядзёлкі, вузьдзечкі, шоркі, ярмы і інш.);

б) арганізаваць рамонт збруі, мабілізаваць рымараў;

в) Праверыць за тыдзень да пачатку сяўбы стан збруі шляхам прымеркі яе на кожнага каня;

г) забясьпечыць рамонт збруі ў часе сяўбы на палявых работах;

д) вылучыць абавязкова ў часе веснавой сяўбы патрэбную колькасьць запасных камплектаў збруі.

## 7. РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ НА РАБОТЫ Ў ЧАСЕ СЯЎБЫ РАБОЧАЕ СКАЦІНЫ, ТРАНСПАРТУ, С.-Г. МАШЫН, НАСЕНЬНЯ, СРОДКАЎ ПРАТРУЧВАНЬНЯ І РАБОЧАГА СКЛАДУ

а) Разьмеркаваньне рабочае скаціны, с.-г. машын, насеньня і інш. сродкаў вытворчасьці і рабочага складу робіцца па брыгадах;

б) кожнай брыгадзе вызначаецца на веснавую работу цьвёрдая плошча апрацоўкі. Разьмер гэтай плошчы павінен быць такі, каб брыгада была не грамоздкай як у адносінах скаціны, інвэнтару, так і рабочага складу. Прыкладна ў брыгадзе павінна быць кожны дзень занята на рабоце ад 30 да 50 чалавек.

Калгасьнікі прымацоўваюцца да брыгад (па магчымасьці з суседніх двароў) з улікам неабходнасьці мець рэзэрвовую рабочую сілу. На чале брыгады стаіць брыгадзір;

в) патрэбны рабочы склад калгасьнікаў разьбіваецца па брыгадах да канца веснавой сяўбы. Сьпіс складу брыгад загадзя вывешваецца, каб кожны калгасьнік не пазьней, як за дзесяць дзён да пачатку сяўбы, ведаў аб сваім прызначэньні, ён павінен ведаць свайго брыгадзіра і атрымліваць ад яго неабходнае інструктаваньне.

У пэрыяд падрыхтоўкі да засеўных работ не радзей аднаго разу па тыдзень склікаецца пасяленная вытворчая нарада членаў калгасаў, на якой упаўнаважаныя паведамляюць аб ходзе падрыхтоўчых работ да сяўбы. Апрача гэтага брыгадзіры праводзяць паасобныя гутаркі і інструктаваньне калгасьнікаў брыгады.

## 8. КІРАВАНЬНЕ РАБОТАМІ

Усёй кампаніяй да веснавое сяўбы кіруе праўленьне калгасу. Для бягучай работы праўленьне вылучае свайго ўпаўнаважанага, якому падпарадкуюцца ўсе кіраўнікі работ.

У калгасах, якія маюць некалькі вытворчых вучасткаў (паселішч), праўленьне вылучае на кожны вучастак (паселішча) спэцыяльнага ўпаўнаважанага для кіраўніцтва работай.

Упаўнаважаны па ўсім калгасе павінен:

а) сачыць за выкананьнем зацьверджанага праўленьнем пляну сяўбы;

б) кожны дзень увечары, пасьля сканчэньня работ, дакладваць праўленьню аб стане падрыхтоўкі і работ, якія праводзяцца па сяўбе;

в) ня больш, чым праз дзень, наведваць кожны вытворчы вучастак;

г) сачыць за сваячасовай дастаўкай насеньня і інвэнтару, фуражу, машын і інш.;

д) інструктаваць кіраўнікоў работ;

е) у выпадку патрэбы накладаць спагнаньні, адхіляць ад работы і назначаць новых кіраўнікоў работ;

ж) сачыць за выкананьнем заданьняў і якасьцю работ вытворчымі вучасткамі;

з) даваць нарады і ўносіць зьмены ў ход работы вытворчых вучасткаў.

У абавязкі ўпаўнаважанага вытворчага вучастку (паселішча) ўваходзіць:

а) распрацоўка канкрэтнага пляну сяўбы;

б) разьмеркаваньне па брыгадах цягавай сілы, інвэнтару, насеньня і рабочай сілы;

в) інструктаваньне брыгадзіраў і адказных работнікаў;

г) кожны дзень бываць у кожнай брыгадзе і кіраваць работай апошняй;

д) дакладваць аб ходзе работ упаўнаважанаму па пасеўнай кампаніі калгасу;

е) кіраваць работай па дастаўцы насеньня, угнаеньняў, фуражу і інвэнтару на месцы работ і г. д.

Упаўнаважаныя вытворчага вучастку (пасёлкавага) падаюць на зацьверджаньне праўленьня калгасу вылучаных брыгадзіраў. У абавязкі брыгадзіраў уваходзіць:

а) падрыхтаваць і разьмеркаваць увесь склад брыгады па спэцыяльных работах;

б) падрабязна інструктаваць склад брыгады;

в) весьці ўлік работы ўсёй брыгады, кожнага калгасьніка;

г) асабіста кіраваць работай і сачыць за якасьцю работы ўсёй брыгады;

д) даваць нарады на насеньне, фураж, харчы і г. д.,

е) кожны дзень дакладваць аб ходзе работ паселішчным упаўнаважаным.

## 9. АРГАНІЗАЦЫЯ ХАРЧАВАНЬНЯ

а) Пры палявых работах арганізуецца арцельнае харчаваньне;

б) агульны парадак харчаваньня ўстанаўляецца праўленьнем калгасу. На падставе агульных паказаньняў праўленьня кожная арцель устанаўляе парадак арцельнага харчаваньня;

в) для кожнай арцелі вылучаецца арцельшчык, на абавязку якога ляжыць арганізацыя харчаваньня, своечасовая дастаўка і хаваньне прадуктаў, забесьпячэньне начыньнем;

г) у распараджэньне арцельшчыка на ўвесь час палявых работ вылучаецца неабходная колькасьць калгасьніц;

д) арцельшчык робіць справаздачу аб сваёй рабоце перад брыгадзірам.

## 10. УЛІК РАБОТЫ

У калгасе павінны быць устаноўлены цьвёрдыя нормы выпрацоўкі і парадак правядзеньня зьдзельных работ. Брыгадзіры вядуць нагляд за выкананьнем норм выпрацоўкі пэрсанальна за кожным калгасьнікам, а ўпаўнаважаны—за выкананьнем нормы брыгады.

Кожны брыгадзір павінен весьці запісы:

а) разьмер заданьняў брыгадзе па гектарах і па культурах;

б) імянны сьпіс брыгады з адзнакай разрадаў;

в) нормы выпрацоўкі і табель работ.

## 11. УЛІК ВЫНІКАЎ ЗАСЕВАЎ

Па пяцідзнёўках праўленьне калгасу паведамляе ў сельсавет разьмеры засеву па культурах:

## 12. АРГАНІЗАЦЫЯ ГРАМАДЗКАГА КАНТРОЛЮ, УДЗЕЛ У АРГАНІЗАЦЫІ ПРАЦЫ КАЛГАСНАЙ ГРАМАДЗКАСЬЦІ

а) Праўленьне калгасу непасрэдна і праз сваіх упаўнаважаных строга соцыць за якасьцю работ. Арганізуе прыёмку работ ад брыгадзіраў, як адказных асоб за якасьць работ, якія выконваюцца;

б) праўленьне павінна забясьпечыць шырокім абмеркаваньнем рабочых плянаў сяўбы на батрацка-бядняцкіх сходах, вытворчых нарадах, у якія павінна быць шырока ўцягнута, апрача батракоў і беднякоў, серадняцкая маса. Апрача таго, рабочыя пляны павінны быць абмеркаваны агульным сходам калгасьнікаў;

в) праўленьне калгасу павінна выпрацаваць мерапрыемствы, якія забясьпечваюць захаванасьць насеннага матар'ялу, рабочае скаціны, фуражу, інвэнтару, збруі і г. д., асабліва ўжыўшы меры ў адносінах барацьбы з магчымымі выпадкамі шкодніцтва клясавага ворага (падпал кармоў, атручваньне жывёлы, псаваньне насеньня і г. д).;

г) уся работа калгасу арганізуецца на аснове шырокай самадзейнасьці і ініцыятывы калгасьнікаў.

Праўленьне абавязана ўсяляк падтрымліваць і заахвочваць калгасьнікаў, якія вызначыліся ў рабоце, шляхам вылучэньня прэміяльнага фонду, вылучэньня на кіраўнічыя работы, а таксама ўцягваць і дапамагаць стварэньню ўдарных груп, разгортваньню масавага сацыялістычнага спаборніцтва паміж калгасьнікамі, брыгадамі, вытворчымі вучасткамі і іншымі калгасамі.

Побач з гэтым усямерна заахвочваць вынаходніцтва калгасьнікаў.

Старшыня Калгасцэнтру СССР ЮРКІН.





# За арганізацыю адходніцтва з калгасаў на сэзонныя заробкі

Арганізацыя працы ў калгасах зьяўляецца ў наступны момант адным з галоўных пытаньняў, разам з гэтым яно зьяўляецца і пытаньнем найменш распрацаваным. Амаль-што няма лігаратуры, няма вопыту непасрэдна па калгасах (я ня кажу аб саўгасах і камунах), няма і кадраў знаёмых з арганізацыяй працы ў калгасах. Гэта зусім зразумела, бо тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва шпарка растуць, калгаснае будаўніцтва так перавысіла нашы плянавыя меркаваньні, што пяцігодка ў гэтай галіне будзе выканана нават не ў 4 гады, а значна раней.

Цяжкасьці плянавага скарыстаньня рабочае сілы калгасаў зьвязаны яшчэ і з тым, што на сёнешні дзень мы ня маем пэўнае лічбы як саміх калгасаў, так і складаючых яго калгасьнікаў, бо калгасы растуць кожны дзень і таму ўсе лічбы зьяўляюцца значна меншымі, чым яны ёсьць на сёнешні дзень.

Адсутнасьць тэхнічнага апарату ў калгасах яшчэ больш абцяжарвае пытаньне вучоту калгаснае рабочае сілы, бо дагэтуль мы яшчэ ня маем у калгасах пэўных вытворчых плянаў, якія-б стала акрэсьлілі ўсе калгасныя магчымасьці. А ці можна працаваць бяз плянаў у наш час? Калі ў прамысловасьці ўся ўвага партыйных і грамадзкіх арганізацый згуртавана на праверцы выкананьня прамфінплянаў, дык у калгасах партыйныя і грамадзкія арганізацыі павінны разам са зьнішчэньнем кулака як клясы, згуртаваць усю сваю ўвагу наваколе складаньня вытворчых плянаў, з тым, каб пачатак прац у калгасе праводзіўся згодна цьвёрдага пляну, а не самацёкам. Трэба дабіцца, каб ні адзін калгасьнік не ляжаў на печы, каб жыцьцё і праца ў калгасах кіпела, каб калгас поўнасьцю выкарыстаў усе свае мажлівасьці.

Дзеля гэтага павінен быць сёньня-ж зроблен рашучы пачатак вучоту працоўнай сілы ў калгасах, павінна быць плянава наладжана разьмеркаваньне працоўнае сілы як у саміх калгасах, так і па-за калгасамі. І тут паўстае пытаньне аб арганізацыі адходніцтва з калгасаў.

Адходніцтва ў БССР наогул мае вельмі вялікае значэньне. Па грубых падліках, рынак працы БССР у гэтым годзе павінен запатрабаваць 250.000 чалавек на ўсе віды працы, прычым па адных будаўнічых работах, па меркаваньнях НКП, належыць скарыстаць 102 тыс. чалавек.

Лічбы адходу з вёскі ў гэтых агульных лічбах арыентыровачна складаюць 80 проц., прычым у грубай-жа лічбе складаюцца ў 210 тыс. чалавек (калі лічыць лічбу адходу 1929-30 г. у 140.000 чалавек і павялічыць яе арыентыровачна на 50 проц.).

Перад нашымі калгасамі гэтыя лічбы адходу ставяць вялізарнейшую задачу, бо амаль уся гэта армія адходнікаў, у першую чаргу, павінна складацца, як гэта адзначана нарадай пры НКП СССР з калгасьнікаў, пры ўмове іх поўнага скарыстаньня. З іх таксама трэба скарыстаць у першую чаргу беднякоў, батракоў і спэцыялістых (муляры, сталяры, грабары і г. д.).

Прывесьці лічбы адходу паасобку па раёнах пакуль-што немагчыма, бо яны хоць і ёсьць, але-ж не канчатковыя. З паказаных-жа грубых лічбаў відаць, што трэба глыбокая прадуманасьць і арганізаванасьць гэтага пытаньня. Калі на сёнешні дзень мы маем проц.

калектывізацыі па БССР 60, дык калгасы павінны арыентывацца на выдзяленьне мінімальна 152.000 чалавек. Лічачы сярэдні заробак адходніка 100 руб. у месяц, дык пры адлічэньні ў фонд калгасу 10%, калгасы ўзмацняць свае непадзельныя капіталы на 152 тыс. руб. у месяц, а на працягу году на паўтары мільёны рублёў.

Усе гэтыя лічбы прыблізныя, але-ж нашы калгасы здольны іх мець і нават значна павялічыць.

Выходзячы з 70 проц. калектывізацыі на вясну бягучага году, па калгасах БССР мы будзем мець усяго працаздольнага насельніцтва: мужчын ва ўзросьце ад 16—60 год—711,3 тысячы, а жанчын ад 16—55 год—788,4 тыс.

Бяручы папраўкі на севазвароты і машынізацыю, непасрэдна ў калгасах БССР будзе скарыстана ў наступным годзе (у тысячах):

| Вясна | | Лета | | Восень | | Зіма | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Муж. | Жан. | Муж. | Жан. | Муж. | Жан. | Муж. | Жан. |
| 631 | 777 | 160 | 374 | 401 | 495 | 26 | 140 |
| 88% | 97% | 22% | 47% | 56% | 62% | 3% | 17% |

Гэта складае 49 проц. скарыстаньня прац. сілы за ўвесь год, прычым мужчын 42 проц. і жанчын 56 проц. Тут паказана выкарыстаньне раб. сілы толькі ў сельскай гаспадарцы, без прамысловых прадпрыемстваў. Трэба лічыць, што з прамысловымі прадпрыемствамі ў калгасах рабочая сіла будзе скарыстана на 50—55 проц. Астатнія 40—45% павінны быць скарыстаны на працах па-за калгасам. Скарыстаньне магутнай сілы ў 550—590 тысяч чалавек патрабуе арганізаванасьці, плянавасьці, бо на рынак працы ў БССР у бягучым годзе патрэбна будзе каля 250.000 чалавек, рэшту-ж рабочае сілы прыдзецца скарыстоўваць па-за межамі БССР.

Зразумела, што выкарыстаць працоўную сілу калгасаў цалкам на ўсе 100 проц. немагчыма, але-ж арганізацыю скарыстаньня пэўнай колькасьці яе трэба пачаць зараз-жа.

Што патрэбна для рацыянальнага і плянавага скарыстаньня рабочай сілы? Па-першае, тэрміновы і сталы вучот па калгасах як наяўнасьці, так і патрэбнасьці працоўнай сілы. Справа гэта складаная, вялікая, але яе трэба зрабіць, тым больш, што цяжкасьці па складаньню балянсу працы па калгасах зьмяншаюцца наяўнасьцю ў некаторых калгасах рабочых плянаў. Там-жа, дзе гэтых плянаў няма, іх трэба абавязкова зараз-жа скласьці. Пры наяўнасьці-ж рабочага пляну скласьці наяўнасьць і патрэбнасьць рабочае сілы даволі лёгка.

Па-другое, усю лішнюю рабочую сілу калгасаў трэба скарыстаць на працы выключна праз праўленьні калгасаў, шляхам калектыўных згод з гаспадарчымі ўстановамі (бязумоўна, пры ўдзеле органаў НКПрацы).

Фактычна парадак разьмеркаваньня лішняе рабочае сілы калгасаў павінен рабіцца шляхам генэральных умоў Акркалгассаюзаў з Інспэкцыяй працы, пры чым лёкальныя ўмовы павінны рабіцца ўжо самымі калгасамі на падставе генэральнае згоды і адпаведнага нараду НКПрацы.

Пры пасылцы калгасьнікаў у адыход, трэба вылучаць толькі сапраўдны лішак рабочае сілы, забясьпечыўшы калгасы поўнасьцю рабочай сілай для 100-процантнага выкананьня свайго вытворчага пляну. Трэба памятаць, што ў калгасе першае—гэта свае пляны, а ўжо пасьля гэтага толькі можна думаць аб вылучэньні ў адыход. Практыка некаторых мясцовасьцяй паказала, што адчуваючы пэўны прыбытак ад адходніцтва, некаторыя калгасы пачалі накіроўваць у адыход як мага больш калгасьнікаў, не зварачваючы ўвагі на свае пляны. Пры гэтым заняліся нават рвачаствам, патрабуючы за адну працоўную адзінку 12—15 руб. у дзень. Такому адходніцтву і тэндэнцыям рвачаства павінен быць даны рашучы адпор у самым пачатку. Усе мерапрыемствы, усе разьмеркаваньні трэба праводзіць толькі на глебе пляну. Плянавасьць-жа мажліва пры ўмове, калі праўленьне калгасу зараз-жа высьветліць, што ў яго ёсьць, што яму патрэбна, што не



І-ая Ўсебеларуская канфэрэнцыя груп беднаты. Нарком Земляробства БССР тав. Рачыцкі з дэлегатамі.

патрэбна і ў які час, а ўжо пасьля гэтага пачне складаць брыгады адходнікаў для брыгаднага-ж накіраваньня на працу.

З вылучанымі брыгадамі адходнікаў зараз-жа трэба правесьці гутаркі, растлумачваючы правы і абавязкі вылучаным, каб на сэзоннай працы калгасьнікі выступалі арганізавана, былі прыкладнымі, дысцыплінаванымі і сумленнымі працаўнікамі, падтрымліваючы жывую сувязь з калгасамі. Брыгады адходнікаў калгасьнікаў на працах павінны зьявіцца першымі ўдарнікамі, павінны разгортваць сац. спаборніцтва і весьці працу паміж неарганізаваных адходнікаў.

Патрэбна адходніцтва арганізаваць і там, дзе яно раней не практыкавалася, затым неабходна ўцягнуць у адыход жанчын, праца якіх па-за сельскай гаспадаркай скарыстоўваецца яшчэ надта мала.

Большасьць сэзоньнікаў зьяўляюцца некваліфікаванай рабочай сілай, у той час, калі пытаньне кваліфікацыі ў бягучы момант звычай-

на балючае, а таму патрэбна арганізаваць у раёнах калгасаў цэлы шэраг курсаў па падрыхтоўцы кваліфікаванае рабочае сілы, з часам павялічваючы лік гэтых курсаў.

З арганізацыяй адходніцтва прыдзецца наладзіць зараз-жа і вучнёўства па адходніцтву, прычым адпаведныя ўстановы павінны гэтым тэрмінова заняцца, бо час не чакае, ужо на дварэ зьзяюць праменьні вясновага сонейка.

У нас заўважвалася, што масавы адыход на заробкі з вёскі рабіўся пераважна летам і ўзімку, прычым вясна заўсёды дрэнна забясьпечвалася працоўнай сілай, бо ўсякі імкнуўся апрацаваць глебу, зрабіць пасеў.

З паданых вышэй лічбаў відаць, што на зіму менш за ўсё прыпадае работы ў гаспадарцы, і, наадварот, вясной гэтае работы надзвычайна многа Каб ня было гэтага, трэба ў будучыне ўсе будаўнічыя працы па калгасу праводзіць у такі час, калі гаспадарка мае значную колькасьць незанятых працоўных адзінак і толькі неадкладныя работы можна праводзіць увясну. Вясна павінна быць разгружана ад усякіх нязьвязаных з сельскай гаспадаркай прац. Калгасы павінны вясной вылучаць пэўную працоўную сілу для забясьпечаньня сваячасовага пачатку будаўніцтва прамысловасьці ў гарадох, каб не зацягваць будаўнічага сэзону да зімы. Зімой-жа практыкаваць адпускі для калгасьнікаў, наладжваць адыход на лесанарыхтоўкі і скончэньне падрыхтоўчае работы да свайго будаўніцтва, якое ў калгасах павінна пачынацца па скончэньні веснавой сяўбы.

Такія пытаньні высоўвае перад намі арганізацыя адходніцтва. Гэтыя пытаньні тэрмінова трэба вырашыць, тэрмінова трэба падрыхтавацца да пачатку будаўнічага і с.-г. сэзону, бо вясна ўжо пачынаецца, а падрыхтаванасьці да яе яшчэ няма.

К. Р. Буйніцкі.

---

# Сацыялістычнае спаборніцтва ў саўгасах у вясеньнюю с.-г. кампанію 1930 г.

Сацыялістычнае спаборніцтва 1929 г. ахапіла амаль усе саўгасы і садзейнічала выкананьню імі ролі пралетарскіх цэнтраў. Упяршыню саўгасамі непасрэдна было арганізавана 59 калгасаў, распачата шэфства, узмоцнена агравытворчая дапамога. Падвышэньне ўраджайнасьці пры посьпехах асобных саўгасаў на 50 проц. і больш (саўгас імя Чарвякова і інш.) абавязана ў значнай меры сацспаборніцтву.

Сацспаборніцтва значна наблізіла і актывізавала ўдзел рабочых ува ўсім жыцьці прадпрыемстваў і ўздыме вытворчасьці працы.

Аднак, сацспаборніцтва мела і мае ў сабе шэраг буйнейшых недахопаў. Палітычна-гаспадарчыя ўмовы і ўся практыка работы, у нядаўнім мінулым, зусім недастаткова адбівалі палітычныя задачы саўгасаў па разгорваньню калгаснага будаўніцтва і зусім адсутнічаюць мерапрыемствы ліквідацыі кулацтва як клясы, умовы, за выключэньнем нязначнага ліку саўгасаў (Габрыэлеўка, Пагост, Калініна і інш.), зусім слаба вызначаюць увагу жывёлагадоўлі. Задачы зьніжэньня сабекошту не знайшлі сабе цэнтральнага месца. Падыход к вызначаным у гэтай галіне задачам быў павярховым. Асобныя саўгасы, вызначаючы сабе

задачы, зьмяншаюць іх супроць заданьняў ураду. Амаль ніводная ўмова не адбівае задач падрыхтоўкі да Ўсебеларускай выстаўкі. Задача 30 проц. уздыму вытворчасьці працы не знаходзіць сабе ва ўмовах вызначэньня рэальнага выкананьня. Ніводная ўмова не прадугледжвае мерапрыемстваў лепшай падрыхтоўкі да с.-г. кампаніі—падрыхтоўка не пераведзена на рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва. Правадзімая праверка і зьвесткі, якія атрымліваюцца з месц, гавораць, што яшчэ не зьліквідавана расхлябанасьць, існуюць шкодна-нездавальняючыя тэмпы работ. Саўгас Мсьціж умудрыўся на 26-І яшчэ ня скончыць малацьбу. Саўгасы Дукора, Весялова, Адаменкі, Брылеў, Кісялевічы і інш. за дзесяціднёўку не адсартавалі ніводнага кілёграму насеньня калгасам. Камаровічы нічога не зрабілі ў гэтай частцы за ўвесь час. Дзедлава, Пашкава, Буйнічы, Анопаль на 10-ІІ ня скончылі ачыстку



Сяляне прынесьлі плугі для рамонту ў саўгас Шыпяны (Меншчына).

ўласнага насеньня. Зусім нездавальняюча разгорнуты і другія падрыхтоўчыя работы як унутры гаспадарак, так і ў справе рэальнай дапамогі калгасам.

Наступіўшы пералом яшчэ ня зымае плямаў ганьбы з шмат якіх саўгасаў. Застаецца недапушчальная неканкрэтнасьць умоў, калі вызначаецца толькі агульная задача без паказаньняў, за рахунак якіх мер павінна быць выканана тая ці іншая задача. Слабая яшчэ праверка, захавалася кампанейшчына, сацспаборніцтва ня стала штодзенным мэтадам работы. Па ранейшаму слаба арганізавана спаборніцтва ўнутры прадпрыемстваў, толькі арганізуюцца першыя групы ўдарнікаў, якія яшчэ ня ўсюды працуюць па ўдарнаму. і асноўным, бясспрэчна, недахопам быў і яшчэ не ліквідаваны—слабы ўдзел рабочых мас у самаахвярным выкананьні задач, пастаўленых перад саўгасамі партыяй

і ўрадам. Вытворчыя камісіі яшчэ і да гэтай пары не зьяўляюцца штабамі штодзенна і правільна кіруючымі соцспаборніцтвам.

## Новыя задачы сацспаборніцтва

Посьпех гістарычнага экзамену, які трымаюць саўгасы, знаходзіцца ў простай залежнасьці ад таго, як будзе разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва. Ён, бясспрэчна, заключаецца ў тым, наколькі поўна будзе выкарыстаны творчы энтузіязм рабочых мас у барацьбе за задачы, якія пастаўлены перад саўгасамі партыяй і ўрадам,—наколькі поўна будзе разгорнут унутраны кантроль над вытворчасьцю і безадкладна ўзяты ўдарныя тэмпы, адпаведныя гэтым задачам.

Трэба безадкладна ўзварушыць зацішша, якое ёсьць на фронце сацспаборніцтва. Трэба ў самым хуткім часе самаправерыць ход яго па кожнаму саўгасу, устанавіць адпаведнасьць яго новым задачам. Трэба перазаключыць тыя ўмовы, якія ня ўлічваюць новых задач, якія не паказваюць канкрэтных шляхоў выкананьня іх, якія паставілі перад сабой меншыя задачы, чымся вызначаныя партыяй і ўрадам. Трэба дадаткова ўва ўсе палітычна-гаспадарчыя ўмовы ўключыць тыя з асноўных задач вясеньняй с.-г. кампаніі, якія ня ўлічаны ўмовамі.

Трэба ў цэнтры сваіх унутраных задач сацыялістычнага спаборніцтва паставіць увагу жывёлагадоўлі па яе асноўных лініях колькаснага ўкамплектаваньня, падвышэньня вытворчасьці, рэальнага зьніжэньня сабекошту ўсяе жывёлаводнае прадукцыі і палепшаньня кармавое базы. На рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва павінна быць пераведзена ўся работа па адкорму і безадкладна заключана пастаўка ў поўным разьмеры. Зьніжэньню сабекошту, як задачы задач, павінна быць адведзена адно з цэнтральных месц, гэтаму павінны быць падпарадкаваны задачы рэальнага росту вытворчасьці працы; бязьлітасна па-бальшавіцку змагацца з безгаспадарчасьцю і немэтазгоднымі тратамі па вытворчасьці. Трэба на справе падняць масы супроць шматтысячных трат, якія мы яшчэ маем у саўгасах. Падрыхтоўка да Ўсебеларускай с.-г. выстаўкі павінна быць баявой задачай кожнага саўгасу.

На рэйкі сацспаборніцтва трэба паставіць усю работу па набыцьцю сродкаў вытворчасьці: перавозку вапны, сканчэньне зернаачышчэньня, рамонт машын, арганізацыю трактарных калён, поўнае выкарыстоўваньне цягавай сілы, правядзеньне розных курсаў і інш. Барацьба за высокі ўраджай у першую чаргу патрабуе поўнай мабілізацыі ўнутраных мажлівасьцяй саўгасаў, поўнага выкананьня аграмінімуму, аб якім дзе-ні-дзе нічога ня ведаюць рабочыя калектывы.

Трэба поўна і мэтазгодна выкарыстаць творчы энтузіязм, які падымаецца арміяй ударнікаў, трэба каб шэраг саўгасаў поўнасьцю абвясьцілі сябе ўдарнымі.

Рабочыя калектывы саўгасу „Стрэлічаў“ даведаўшыся аб недахопах падрыхтоўкі свае гаспадаркі да веснавой сяўбы, зразумелі, што толькі ўдарнымі тэмпамі можна ліквідаваць пагрозы зрыву. „Рабочы калектыў саўгасу „Стрэлічаў“ абвясьціў сябе ўдарным па пасьпяховаму выкананьню ўсіх мерапрыемстваў па правядзеньні вясеньняй с.-г. кампаніі, па падняцьці ўраджайнасьці ня менш як на 35 проц., зьніжэньні сабекошту на 25 проц., поўнага зьнішчэньня прагулаў, рашучай барацьбы з неахайнымі адносінамі да працы, маемасьці і ўсялякай безгаспадарчасьцю і разгільдзяйствам“. Такія-ж пастановы прынялі рабочыя калектывы саўгасаў Судкова, Руданова і інш. Але мала паста-

ноў. Будзе вельмі шкодным, калі гэта застанецца толькі модаю, дэклярацыяй,—не ператворыцца ў штодзенную, сапраўды ўдарную работу. На практычнае ажыцьцяўленьне гэтых задач трэба накіраваць усю творчую энэргію рабочых калектываў усіх саўгасаў.

Размах сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы патрабуе карэнных зьмен работы саўгасаў у калгасным будаўніцтве. Не агрывытворчая дапамога патрэбна ад саўгасаў зараз. Патрэбна, каб саўгас на справе быў моцным рычагом калгаснага будаўніцтва, ліквідацыі кулацтва як клясы і раскулачваньня.

Сацыялістычнае спаборніцтва па калгаснаму будаўніцтву павінна быць разгорнута па лініі яшчэ больш шырокай работы па непасрэднай арганізацыі калгасаў і арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні іх. На рэйкі сацспаборніцтва трэба правесьці работу па аграмаджаньню



Дэлегаты зьезду калгасьнікаў Уваравіцкага раёну галасуюць за прыняцьце вызаву на сацспаборніцтва калгасьнікаў Клімавіцкага раёну.

сродкаў вытворчасьці і ў першую чаргу насеньня і жывёлы. Арганізацыя батрацка-бядняцкіх груп, вытворчых нарад, арганізацыя працы, дапамога ў арганізацыі гаспадарак, складаньне вытворчых плянаў, наладжваньне сталага шэфства, рэальнай дапамогі ў разгортваньні падрыхтоўкі кадраў—усё гэта можна ажыцьцёвіць праз сацспаборніцтва.

Гаспадарчы экзамен, які трымаюць саўгасы Беларусі па правядзеньню с.-г. кампаніі 1930 г., патрабуе, каб уся праца была праведзена адпаведным тэмпам. Наогул, патрэбна, каб усе агрыкультурныя мажлівасьці саўгасаў былі выкарыстаны ў поўнай меры, а ня так злачынна, як зараз.

*Шырока разгарнуўшы сацыялістычнае спаборніцтва забясьпечым поўнае выкананьне задач, ускладзеных на саўгасы.*

Менск, Белсельтрэст. **Т. Аўчыньнікаў.**

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ НА ПЕРШЫ ПЛЯН

(Рагачоўска-Жлобінскі камбінат).



Абагуленае стада на вадапоі ў калгасе.

## Палепшым нашы лугі

Асноўныя задачы ў галіне кормаздабываньня—1) павялічыць запас кармоў у гаспадарцы; 2) мець кармы, якія павялічваюць пажыўнасьць кармавога рацыёну; 3) арганізаваць роўнамернае кармленьне на працягу году—патрабуюць свайго пільнага вырашэньня.

Хаця ў БССР сена займае ў кармовым пытаньні значнае месца, тым ня меней колькасна і якасна зборы яго прымушаюць жадаць многа лепшага.

Так, зборы сена па статыстычных даных за 1925 і 1926 гады хістаюцца ў такіх межах (з гектару) у падвойн. цэнтнэрах.

| | | |
|---|---|---|
| Заліўныя лугі . . . . . . . . . | ад 17,0 цэнтн. | да 20,5 цэнтн. |
| Сухадолы . . . . . . . . . . . | „ 13,0 „ | „ 13,5 „ |
| Лясныя лугі . . . . . . . . . . | „ 11,5 „ | „ 12,5 „ |
| Балоты (нізінныя) . . . . . . . | „ 11,0 „ | „ 13,0 „ |

Як відаць, амплітуда хістаньняў ураджайнасьці ў межах адзначанага тыпу і ў межах усяе рознастайнасьці лугавое плошчы надзвычайна вузкая.

Сена ў агульным балянсе ёмістых кармоў займае прыблізна ў сярэднім па БССР—67 проц., а 33 проц. прыпадае на яравую салому, мякіну і інш., г. зн. на корм менш каштоўны, які цяжэй усвойваецца арганізмам жывёлы. Па асобных акругах забясьпечанасьць сенам аднае галавы быдла досыць моцна хістаецца: Менск—12 *цнт*, Магілеў—9,5 *цнт*, Віцебск—12 *цнт*, хаця апошні знаходзіцца ў зоне сухаземных лугоў, тады як Менск—у зоне заліўных і балотных.

Хаця па асобных гадох ураджай тых альбо іншых лугоў—заліўных, сухадолаў і г. д., зьмяняецца і ня вельмі значна, таксама як і агульная сума сеназбору (у межах 10 проц., аднак, якасна сена па асобных гадох бывае вельмі featureнастайнае, але якасная розьніца ў сене не дае гарантыі таго, што становішча ў галіне ёмістых кармоў зьяўляецца здавальняючым, тым больш, што гэтых кармоў не хапае.

У якім-жа напрамку трэба весьці працу, каб гэтае становішча палепшыць і разьвязаць.

Тут мы можам указаць цэлы шэраг мерапрыемстваў: увядзеньне ў палявую культуру аднагадовых і шматгадовых кармовых расьлін, пашырэньне культуры бульбінаплодаў і шырокая прапаганда карысьці скармліваньня караньплодаў, сіласаваньня бацьвіньня палявых і гародных расьлін, завоз моцных кармоў і г. д.



Машына-фрэзэр „Сімэнс“ у 35 сіл з прыстасаваньнем для апрацоўкі забалочанай глебы.

Побач з гэтымі мерапрыемствамі ў галіне пашырэньня кармовай базы, якія так або інакш зьвязаны з палявой плошчай, увага павінна быць зьвернута на прыродную кармовую плошчу—лугі і выганы.

Толькі адны самыя простыя мерапрыемствы ў галіне правільнага лугаскарыстаньня, як ачыстка ад моху „па чэрану“, зьнішчэньне хмызьняку, разроўніваньне паверхні лугу, угнаеньне лугу гнаёвай жыжкай, сваячасовае, на належнай вышыні, падкошваньне травы, схова ад выбіваньня жывёлай пры выпасе па атаве і т. п., падвышаюць ураджайнасьць ад 10 да 25 проц. у залежнасьці ад характару мерапрыемстваў і больш або менш умелага іх прывядзеньня.

Нельга забываць і тых забалочаных зямель, якіх па БССР налічваецца 2.200.000 *га*. Гэта вельмі добрыя лугавыя землі, якія патрабуюць толькі вялікіх сродкаў і арганізаванасьці для свайго гаспадарчага асваеньня. Гэтыя сродкі, гэтая арганізаванасьць ёсьць у нашых гігантах-калгасах, нашых раёнах суцэльнай калектывізацыі.

Тут ужо можна праводзіць больш радыкальныя мерапрыемствы ў сэнсе палепшаньня лугавое плошчы, тут павінна адбыцца рэвалюцыйны ўдзел культур-тэхнікі ў жыцьці лугу і ўтварэньне на месцы прыроднае лугавое плошчы пасеўных лугоў. Гэта больш складаныя

мерапрыемствы, чымся палепшаньне лугу мерамі эвалюцыйнага ладу, шляхам зьмены толькі некаторых фактараў у жыцьці лугу, але выкананьне гэтых рэвалюцыйных мерапрыемстваў зьмяняе твар нашых лугоў у корані.

У пытаньні палепшаньня прыродных лугоў абедзьве задачы і паверхоўнае і карэннае палепшаньне лугоў—павінны вырашацца ў выніку ўдумлівага аналізу эканамічнай мэтазгоднасьці таго ці іншага з гэтых двох мерапрыемстваў.

У заключэньне лічым неабходным адзначыць, што пытаньне павялічэньня пагалоўя нашай жывёлы, павялічэньня яе прадукцыйнасьці ўпіраецца ў задачу ўсямернага ўзмацненьня кармовае базы.



Машына „Уніон“ з прыстасаваньнем для расьсеву ўгнаеньня на лугох.

Тамv палепшаньне прыродных лугавых плошчаў патрабуе самай пільнай увагі, бо яно зьяўляецца складанай часткай ня толькі зьнішчэньня недахопу кармоў для жывёлы, але і разьвіцьця жывёлагадоўлі ў нашай краіне.

Кожны калгасьнік, кожны рабочы саўгасу павінны ведаць аб гэтым і падумаць над тым, што зроблена ў сэнсе палепшаньня лугоў на тэрыторыі гаспадаркі, дзе ён працуе.

Патрэбен умелы, належны, энэргічны падыход да лугоў БССР.

Праф. **Л. Малякоў.**

## Забясьпечым кармамі жывёлу

Буйны рост калектыўных гаспадарак, аграіндустрыяльных камбінатаў гігантаў, наогул гіганцкія крокі ў перабудове СССР—усё гэта надзвычайна акрыляе думку, стварае надзвычайна вялікія пэрспэктывы. Усё тое, што пры сыстэме індывідуальнае гаспадаркі немажліва, у кал-

гаснай сыстэме становіцца рэальным і таму ў нашай калгаснай сыстэме мы можам і павінны выкарыстаць усе мажлівасьці. Кожнае зерня, кожнае сьцябло, кожная саломіна павінна быць паложана на сваё месца і адпаведна выкарыстана. Гэтыя мажлівасьці ў нас вялікія, прычым трэба, каб усе дробязі ў сельскай гаспадарцы былі ўлічаны.

Калі ўзяць якую-небудзь з дробязяй ды вывучыць яе, дык часамі яна вырастае ў вялікую праблему. Напрыклад, пытаньне аб выкарыстаньні бульбянага бацьвіньня на сілас. На бульбяных палетках за вэгэтацыйны пэрыяд вырастае значная колькасьць зялёнай масы— бацьвіньня. У дробнай індывідуальнай гаспадарцы яно амаль-што ніякага значэньня ня мае, бо пераtвараць яго ў каштоўны корм немагчыма з-за нерэнтабельнасьці. Затое для калгасу гэтае пытаньне мае вялікае значэньне ў вырашэньні кармовай праблемы для ўсяе сыстэмы сельскае гаспадаркі.

Для таго каб гэта было відавочна, зробім такі ўлік: на адзін квадратовы мэтр садзіцца мінімум 4 кусты бульбы. Адзін гектар мае 10.000 кв. мт., таму на гектары будзе пасаджана 40.000 кустоў бульбы. Прымем, што ў сярэднім (прыблізна) адзін куст дасьць сырое масы 400 гр., якія памножым на лік кустоў з гектару. Для таго, каб мець большую ўпэўненасьць у вывадах, зьменшым лічбу на 25 проц., дапусьціўшы, што гектар будзе даваць 30.000 кустоў. Тады 30.000×400 гр.= = 120 дв. цэнтнэраў, якія для большай упэўненасьці прымем са зьмяншэньнем у 115 цэнт. (700 пуд.). І так мы маем з аднаго гектару пэўных 115 цэнтн. зялёнае масы, якая атрымоўваецца з нізкага ўраджаю (400 гр. з куста, гэта ўраджай нізкі; добрыя гатункі дадуць значна большы ўраджай).

Што-ж атрымаецца ў аграіндустрыяльным камбінаце ў 100.000 гектараў, у якім будзе 27.000 *га* бульбы. Ці паможа гэта мерапрыемства вырашыць хоць колькі-небудзь кармовую праблему?

Мы ўжо ведаем, што гектар дае 115 цэнтн. зялёнае масы бацьвіньня, а 27.000 гектараў дадуць 27.000×115 = 3.105.000 цэнтн., якія могуць быць засіласаваны і выкарыстаны як добры сакавіты корм. Ня цяжка вылічыць, якое стада можна пракарміць гэтым кормам у даным агракамбінаце. У іншым-жа выпадку гэтыя кармы прападаюць дарма.

Больш таго, трэба скарыстаць гэтую дробязь ува ўсёй сыстэме народнае гаспадаркі БССР. Бульба ў БССР займае плошчу 450.000 гектараў і гэтая плошча будзе штогод пашырацца. Прымем за асноўную лічбу 450.000 *га* і памножым яе на ўраджай з гектару, г. з. 115 цэнтн. Тады 450 000 × 115 = 51.750.000 цэнтн. зялёнае масы бульбянага бацьвіньня. Калі прыняць, што пры сіласаваньні каля двух з паловай мільёнаў цэнтн. страціцца, дык усё-ж сакавітага корму будзем мець звыш 49 мільёнаў цэнтн.

Вельмі часта можна чуць, што многія дасьледчыкі высоўваюць на сцэну лубін і інш. культуры, якія можна засіласаваць на корм. Не адкідаючы ідэі высоўваньня новых культур, можна быць упэўненым, што бульбянае бацьвіньне шмат лепш, чым лубін ці сланэчнік і да таго-ж не патрабуе адводу спэцыяльнае плошчы. Калі прыраўнаць сілас бульбяніку да саломы, дык і то цэнтнэр яго мусіць даць ня менш як 3 руб. чыстага прыбытку, а 49 мільёнаў цэнтнэраў дадуць ня менш 15 мільёнаў чыстага прыбытку, вырашаючы пры гэтым цалкам кармовую праблему БССР.

Ітак не падлягае сумленьню, што ідэя сіласаваньня бацьвіньня бульбы, а таксама і бацьвіньня кораньплодаў зьяўляецца рацыянальнай, жыцьцёвай і яе трэба ажыцьцявіць.

У сувязі з гэтым неабходна разгледзець выцякаючыя адсюль запытаньні, а ці не адаб'ецца гэта шкодна на ўраджаі. Я зусім упэўнена заяўляю, што не, не адаб'ецца. Мы ведаем, што ў БССР першыя замаразкі, якімі можа быць пашкоджана бацьвіньне і пасьля чаго прырост канчаецца—наступаюць у першых лічбах кастрычніка. У верасьні, звычайна бываюць ясныя сонечныя дні і бацьвіньне яшчэ не пачынае засыхаць. Прыборка бульбы ў БССР звычайна пачынаецца ў пачатку кастрычніка, так што да гэтага тэрміну, за тыдзень ці паўтара да прыборкі і трэба прыўрочыць касьбу бацьвіньня на сілас. Мне думаецца, што найлепшы тэрмін будзе ў прамежку 15—25 верасьня і тады ад гэтага ня толькі ня зьменшыцца ўраджай клубняў, а нават будзе паляпшацца, бо тыя хваробы, якія ёсьць на бацьвіньні, будуць прыбраны з поля і не пападуць ні ў грунт ні на клубні. Скошваньне бацьвіньня раіцца як мера барацьбы з хваробамі, а значыць і як мера па падвышэньню ўраджайнасьці.

Другое вельмі важнае пытаньне, якое выцякае адгэтуль, паколькі мы будзем мець такое вялікае, масавае мерапрыемства—гэта як арганізаваць прыборку бацьвіньня. Вядомая рэч, што скасіць касою, або нават звычайнаю касілкаю бульбянік на плошчы 10—20 тысяч *га*, справа ня лёгкая, а таму трэба сканструяваць спэцыяльную прыборачную машыну—„камбайн“, якая-б касіла і зьбірала бацьвіньне ў кучу. Для гэтае мэты можа быць прыстасаваны, па-першае, трактар палольнік прапашных, у камбінацыі з рэканструктаванай жаткай-снапавязалкай, ці можа якая-небудзь іншая машына. Гэтае пытаньне трэба вырашыць машыназнаўцам.

Па-другое, вядома, што на бульбе, як ні на аднэй з іншых культур, вельмі многа ўсялякіх хвароб; бываюць гады, у якія бацьвіньне на раньняй бульбе адмірае ад фітафторы. Нашы бульбяныя плянтацыі ня чыста гатунковыя, у дамешцы налічваецца вельмі многа разнаякасных гатункаў па сваёй трываласьці да хвароб. Прычым малатрывалыя гатункі таксама бываюць значна пашкоджанымі фітафторай (трэба праўда агаварыцца, што заводзкі гатунак вольтман і сталова-заводзкі сілезія—заражаюцца вельмі слаба, або і зусім не заражаюцца, у той час як насаджаная поруч махратка, раньняя роза і інш. хварэюць на 100 проц., у такіх выпадках ужываецца апырскваньне. Апырскваньне робіцца рознымі відамі раствораў, у тым ліку і мядзяным купарвасам. З гэтае прычыны могуць сказаць, што апырскваньне памяншае праўдзеньню ў жыцьцё гэтае ідэі, бо пры апырскваньні мядзяным купарвасам, ня гледзячы на тое, што бульба будзе цэлае лета пад дажджом—на бацьвіньні астанецца медзь і яна зьнізіць кармовую якасьць бацьвіньня. На гэта можна адказаць так:

1) Апырскваньне ў нас ня ўжываецца, або ўжываецца ў рэдкія гады.

2) Растворы трэба ўжываць такія, якія-б не аставаліся на лісьці і ня былі шкодны жывёле.

3) Позьнія завадзкія гатункі не патрабуюць у нашых умовах апырскваньня.

4) Паколькі апырскваньне мяркуецца ў будучым, дык да таго часу сэлекцыянэры павінны даць, і яны дадуць, імунныя сарты ў адносінах да фітафторы і іншых хвораб бульбы, якіх ня трэба будзе апырскваць—гэта асноўная задача сэлекцыйнай бульбянай працы.

Можа тут ня ўсе адмоўныя бакі адзначаны, недаапрацавана гэтае пытаньне, але важна тое, каб скарыстаць 49 мільёнаў цэнтн. корму, а да вырашэньня пытаньня трэба хутчэй прыступіць, бо ідэя гэтага заслугоўвае.

* * *

Разгледзім яшчэ адно на першы погляд дробнае пытаньне. Мы ведаем, што бульба ў нашых умовах адыгрывае значную ролю як корм, пры захаваньні якога мы маем значны % адыходу з прычыну гніеньня. Па даных акад. М. К. Мамошыцкага 100 проц. ураджаю бульбы па БССР разьмяркоўваюцца па скарыстаньню так:

| На корм жывёле і птушк. | На харч насельн. | На тэхнічн. перапрацоўку | Вываз | Насеньне | Страты пры захаваньні | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 42,4% | 31,1% | 2,4% | 0,8% | 18,4% | 4,9% | 100% |

Прыведзеныя лічбы ёсьць сярэднія за 3 гады (1925-26, 1926-27, 1927-28 г.). Яны паказваюць, што страты пры захоўваньні раўняюцца 4,9 проц., у той час, як на тэхнічную пераапрацоўку патрабавалася толькі 2,4 проц., г. з. страты ў 2 разы былі большыя той колькасьці бульбы, якая пайшла на бульба-апрацоўваючыя заводы. У абсалютнай лічбе яны выражаюцца ў 1 мільён 735 тысяч цэнтнэраў бульбы, ці мінімум на 5 мільёнаў руб. штогод.

Як бачым, лічбы вялікія і зразумела, што трэба знайсьці спосабы, якія-б пазбавілі нашу сельскую гаспадарку ад такіх значных страт. Амаль 2 мільёны цэнтн. бульбы гэта такая колькасьць, якою можна адкарміць некалькі тысяч сьвіней на бэкон.

Мы ведаем, што бульба прадукт не транспартабельны, бульба мае ў клубнях каля 75 проц. вады, вельмі псуецца пры перавозках (што ўжо цяжка ўлічыць), а адсюль вынікае:

1) Безадкладна прыступіць да дасканальнага вывучэньня спосабаў захоўваньня і перавозак бульбы.

2) Безадкладна прыступіць да ажыцьцяўленьня (а таксама і больш глыбокага вывучэньня) спосабаў тэхнічнае перапрацоўкі бульбы ў высока-якасны, зусім транспартабельны прадукт.

Грошы ў нас на гэта знойдуцца. Эканомія 5 млн. руб., якую мы штогод будзем мець пазбавіўшыся страт пры захаваньні бульбы як корму—дазволіць пабудаваць адпаведныя заводы.

Перад немцамі ў свой час паўстала гэтае пытаньне і яны вынайшлі спосаб пераробкі бульбы ў так званыя „хлопіны“—прадукт вельмі блізкі па хімічнаму складу да кукурузы і аўса. Так напрыклад:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Сухая бульба зьмяшчае бялка . | 6,4%, | жыру—0,2%, | без азотн. экстр. матэры—70,3% |
| 2) Хлопіны зьмяшчаюць . . . . | 6,3% | „ —0,2% | „ „ „ „ 74,2% |
| 3) Кукуруза зьмяшчае . . . . | 10,1% | „ —4,7% | „ „ „ „ 68,6% |
| 4) Авёс „ . . . . | 8,5% | „ —4,0% | „ „ „ „ 62,8% |

Як відаць з прыведзеных лічбаў, кармовая якасьць хлопін у параўнаньні з кукурузай і аўсом амаль раўнацэнная. Хлопіны могуць быць з карысьцю прымешаны да мукі пры выпечцы хлеба (50 проц. хлопін

і 50 проц. мукі). Хлопіны добры корм для коняй, кароў і г. д., для адкорму сьвіней яны незаменны. Сушаная бульба і хлопіны зусім транспартабельны, ня псуюцца пры захоўваньні. Адсюль значэньне іх для нашае гаспадаркі відавочнае, а значыць і гэтае мерапрыемства мы павінны ўлічыць пры вырашэньні праблемы кармоў.

Немцы, прыстасаваўшы спосабы тэхнічнае пераапрацоўкі бульбы, паставілі праблему (і ўжо яе зьдзейсьнілі)—замены продуктамі бульбы ўвозам крухмалістых кармоў. Больш таго, у імпэрыялістычную вайну яны выходзілі з свайго цяжкага становішча выключна пры пасрэдніцтве продуктаў бульбы [1]).

Я думаю, што гэтым пытаньнем трэба заняцца.

Апускаючы пытаньне штучных выпасаў, якім займаўся ў БССР праф. Найдзёнаў, займаўся і займаецца Заг. Цэнтр. Сьвін. станцыі С. І. Журык, на гэтае пытаньне яны павінны даць адказ. Мне-ж думаецца, што трэба яшчэ сур'ёзна разгледзець пытаньне аб новых культурах, якімі ў БССР займаецца Бел. Аддз. Усесаюзн. Інст. Прыкладн. Батанікі і новых культур. На вялікі жаль да гэтага часу гэтая ўстанова нічога не дае—ня высунула і не распаўсюдзіла ніводнае новае расьліны,—замыкаючыся ў сябе дома і баючыся сьвету. Між тым многія новыя культуры могуць і павінны заняць пэўнае месца ў вырашэньні кармовае праблемы. Да такіх я адношу:

1) Тапінамбур—(земляная груша).

2) Суданская трава (мажліва, што суданка мае значэньне толькі для некаторых раёнаў БССР).

3) Кукуруза (таксама не для ўсяе БССР).

4) Доньнік (заслугоўвае вялікае ўвагі).

5) Некаторыя гатункі лубіну.

6) Пялюшка, новыя гатункі кармовага гароху і сэрадэля для пясковых раёнаў.

7) Сланэчнік (для некаторых раёнаў).

8) Новыя гатункі і віды канюшыны, азімая віка.

9) Люцэрна, эспарцэт і многія іншыя расьліны.

Новыя культуры ня могуць быць абойдзены, яны павінны заняць адпаведныя месцы ў шэрагу нашых шуканьняў, бо маем прыклады, калі ўвядзеньне і адпаведнае прыстасаваньне новых культур да даных мясцовых умоў, робіць цэлую рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы і бязумоўна, што для ўмоў БССР могуць быць знойдзены і палепшаны вельмі каштоўныя як кармовыя, так і тэхнічныя культуры. Мы добра ведаем прыклады, што сэлекцыянэры засушлівых раёнаў СССР прыстасоўваюць свае культуры да даных умоў, сэлекцыя дае імунныя, г. зн. устойлівыя супроць хвароб гатункі, сэлекцыя дае надзвычайна ўраджайныя гатункі і г. д. і г. д Наогул кажучы сэлекцыянэр ужо ўладае такімі мэтадамі працы, якія дазваляюць сказаць, што для ўсялякіх умоў могуць быць падабраны такія культуры і выведзены такія гатункі, якія не баяцца ні сухменю, ні хвароб, ні розных іншых фактараў зьніжаючых ураджай. Наадварот, сучасныя дасягненьні настолькі вялікія, што дазваляюць сказаць—мы неўраджаяў не баімся, нам толькі трэба як мага

[1]) Гл. працы: А. Дзямідовіча. 1) „Бульба"—выданьне БДВ 1929 г. і артыкул у часопісу „Сельск. і Лясн. Гаспадарка" № 3, 1927 г.

шырэй выкарыстаць сучасныя дасягненьні, як мага шырэй разгарнуць дасьледчую працу. Ва ўмовах СССР, дзе дасьледчык працуе не для паасобных капіталістых, а працуе для ўсяе сыстэмы народнае гаспадаркі, дзе абагуленая гаспадарка надзвычайна спрыяе гэтай працы, даючы надзвычайна шырокія пэрспэктывы, спрыяючы ўнядрэньню лепшых гатункаў і культур, што трудна зрабіць ва ўмовах капіталістычнае, ці наогул раздробленае гаспадаркі. Надзвычайна добры і каштоўны гатунак можа быць у працягу аднаго году выведзен з строю з прычыны немажлівасьці вясьці плянава гэтую гаспадарку.

Відавочна, што новыя культуры і іх сэлекцыя павінны прыйсьці на дапамогу ў вырашэньні кармовае праблемы, а роўна і многіх іншых, як, напрыклад, тэкстыльнае сыр'явое і г. д.

Так, напрыклад, вядома, што ў Амэрыцы доньнік адыгрывае рашаючую ролю ў кармовым пытаньні, у Нямеччыне тапінамбур высоўваецца як канкурэнт бульбы, а Нямеччына па сваіх кліматычных і глебавых умовах мала чым адрозьніваецца ад БССР.

У леташнім 1929 г. на ўсесаюзным зьезьдзе па гэнэтыцы, сэлекцыі і насеняводзтву, адзін з буйнейшых нямецкіх вучоных праф. Баўэр расказваў нам аб выгаднасьці ўвядзеньня тапінамбуру, які дае добрыя ўраджаі высока-якасных клубняў і зялёную масу, якая з посьпехам скарыстоўваецца на сілас.

Закранутыя мною пытаньні можа быць недастаткова апрацованы, ня зусім дакладна мною вылажаны і г. д., але яны рэальны, і іх трэба значна лепш распрацаваць, вывучыць і прымяніць у сыстэме нашае сельскае гаспадаркі на практыцы.

**А. Дзямідовіч.**

---

# Праца Мазырскага акрмалжывёлсаюзу

Мазырскі акруговы малжывёлсаюз арганізованы ў ліпені месяцы 1929 году з рэарганізаванай Малочнай Сэкцыі Акрсельсаюзу. Пры Акрсельсаюзе існавала 20 малочна-жывёлагадоўчых таварystваў, з якіх большая частка амаль што ніякай працы не вяла і мэтаю Саюзу было ажыцьцявіць працу гэтых таварystваў і арганізаваць яшчэ новыя. Праўда, за час існаваньня саюзу афармлены яшчэ 12 таварystваў і, такім чынам, мы маем на сучасны момант 32 т-вы, але на вялікі жаль з гэтае колькасьці вядуць некаторую працу толькі 18, прычым гэтая праца ў сваёй пераважнай частцы зьвязана з нарыхтоўкамі ўсякае сыравіны. На малочную і агро-вытворчую справу зусім мала зьвяртаецца ўвагі.

Ня гледзячы на цэлы шэраг указаньняў з боку Белмалжывёлсаюзу нават і пастановы самога Праўленьня Маз. акр. мал. жывёлы ад 15-X-29 г., калі было выяўлена, што ў плянавай частцы аргаддзелу амаль што ніякіх зьвестак ня маецца аб колькасьці пайнікаў, каб гэтыя зьвесткі ў двухтыднёвы тэрмін былі складзены аргаддзелам, дасланы зьвесткі толькі ад 7 таварystваў. Праўда, распрацованы вялікія анкеты, дзе маюцца паказаньні і аб сацыяльным, нацыянальным складзе і г. д., а толькі 5 т-ваў прыслалі і то путаныя зьвесткі. Яскрава, што выявіць клясавы напрамак каапэраваньня, бязумоўна, нельга. Тлумачэньне

Праўленьня аб тым, што толькі ў 8-мі таварыствах маюцца рахункаводы, зусім неаслабаняе ад адказнасьці за адсутнасьць гэтых зьвестак, бо пры апараце аргаддзелу з 7-мі асоб і наогул пры апараце саюзу ў 21 асобу, прымаючы пад увагу, што большасьць працаўнікоў знаходзіцца амаль што заусёды на раёне, гэтыя зьвесткі можна было дадаць і калі ўзяць пададзеныя 8 гадовых справаздач, то мы маем па кароўнасьці каля 9 проц. заможных. (Па налогу зьвестак няма).

Паенакапленьню зусім не ўдзялялася ўвагі. Гэта сьведчыць, што некаторыя таварыствы, якія існуюць амаль што пяць год, як Верасьніцкае, мае сярэдні пай ў 1 руб. 64 кап., Даманавіцкае, існуючае 2 гады—68 кап.

Абураючае становішча з скарыстаньнем фонду каапэраваньня бедннаты. Па зьвестках самога саюзу з адпушчаных на 28-29 г. 2.200 руб. нескарыстана 1.200 р., а калі ўзяць па зьвестках гэтых 8-мі т-ваў, дык маем, што з маючыхся ў іх 1.537 руб., фонду каапэраваньня беднаты нескарыстана 1.052 руб. Трэба падкрэсьліць, што ў гэтым напрамку таксама Праўленьне амаль што нічога не рабіла і абмяжоўвался адказам т-вам, што няма каго каапэраваць. Зразумела, гэта паказвае на тое, што сярод бедняты не вялася праца.

Цікава, што інструктары Аргаддзелу, з якіх у разьезьдзе заусёды было 4—5 асоб, зусім ніякае ўвагі не ўдзялялі разьмеркаваньню кармоў і ў выніку, калі ўзяць па гэтых 8-мі т-вах, то за атрыманыя ад індывыд. пайнікаў 488.645 літраў малака раздана кармоў 218.953 кгр. І вось, калі ўзяць нават вышэйшую сярэднюю норму 30 клгр. за 100 літраў, то і то належала-б выдаць кармоў ня больш як 146.590 клгр. Такім чынам, дэфіцытныя кармы разбазарваліся, раздана на 50 проц. больш чым належыла, а калі ўзяць з гэтае колькасьці ня менш паловы маючых па 2—3 і больш кароў, то перавышэньне супроць нормы будзе на 100—150 проц. Не зьвярталі належнае ўвагі і на разбазарваньне масла. Калі ўзяць выпрацоўку масла па гэтых т-вах, дык сярэдні процант рэалізацыі на месцы, у большай частцы знаёмым і мясцовым працаўнікам, складае 18—20 проц., а калі ўзяць па паасобных т-вах, дык за апошні квартал кастрычнік—студзень 29 г. гэты процант даходзіць да 40. Напрыклад, па Ельскаму т-ву з выпрацаванага масла за апошні квартал 107 клгр., 45 клгр. засталося на месцы, у Нараўлянскім т-ве з выпрацаваных за апошнія м-цы 150 клгр., 47 клгр. засталося на месцы. Трэба сказаць, што на гэты конт было паказаньне Акрмалжывёлсаюзу аб застаўленьні на свае патрэбы ня больш 5 проц., але дзякуючы адсутнасьці ўсякае праверкі і дысцыпліны пастанова гэтая ня выконвалася. Інструктары ня былі прымацованы да асобных т-ваў і зьяўляліся выключна гастралёрамі, якія нават і ня ставілі справаздач на с.-с., РВК і г. д.; з боку праўленьня ні разу ня было ўказаньня аб тым, каб т-вы рабілі справаздачы на сельсаветах і РВК, а таксама ня было пастаўлена пытаньне і перад АВК аб дачы паказаньняў на месцы, каб больш зьвярталі ўвагі на працу т-ваў. Наогул ніякае грамадзкае працы вакол т-ваў няма. Бедната і батрацтва не ўцягнуты ў т-ты і ўсё гэта дзякуючы таму, што праўленьне ніякага пляну ў сваёй працы ня мела, працавала стыхійна, бяз улічваньня тых задач, якія былі пастаўлены.

Адпушчаныя ў 1928-29 годзе 25.000 рублёў доўгатэрміновых крэдытаў на абсталяваньне і пабудову малочных заводаў разьмяркованы паміж 7-мі т-вамі. Прычым, дзякуючы адсутнічаньню ўсякае дапамогі

і кантролю з боку Акрсаюзу на выдаткаваньне гэтых сродкаў, маюцца такія факты, як, напрыклад, у Нова-Пакроўскім т-ве, што на адпушчаныя 1.000 рублёў купілі 3 каровы і паставілі іх у найбольш заможных сяброў таварыства, прычым адна з іх здохла. У Нараўлянскім т-ве, у выніку нядбайнасьці і безгаспадарчасьці пры пабудове заводу, кештоўнасьць заводу замест 3 з паловай тысяч рублёў абышлася ў 7 тысяч руб. і г. д.

З боку Праўленьня наглядалася нежаданьне выпраўляць тыя недахопы, якія меліся ў працы паасобных т-ваў, як, напрыклад: інструктар Акрсельсаюзу тав. Энгэльгард падаў заяву аб тым, што ў Лельчыцкім т-ве маюцца вялікія непаразуменьні, то на гэтай заяве была пакладзена рэзалюцыя загадчыка аргаддзелу тав. Гільбо „да ведама“ і падшыта да справы.

Зварачвае на сябе ўвагу тое, што амаль усе т-вы маюць дэфіцыт, ня гледзячы на тое, што некаторыя з іх вядуць досыць салідную нарыхтоўчую працу; гэта тлумачыцца нерацыянальнай пастаноўкай працы ў т-вах, калі маецца да 5—6 платных працаўнікоў, з якіх частка зусім ня мае нагрузкі, напрыклад, у Ельскім т-ве маецца 5 працаўнікоў, з якіх майстэр Маслароб і нам. старшыні Праўленьня—загадчык складу кармоў нагружаны 2—3 дні ў месяц, а атрымліваюць яны па 30—40 р.

Ніякае культпрацы ў т-вах не вядзецца. Ня гледзечы на адсутнасьць рахункаводаў амаль што ва ўсіх т-вах толькі 20-га сьнежня адчыніліся курсы рахункаводаў і дзякуючы нядбайнаму адбору з 25 палова адсеялася. У лістападле м-цы была нарада старшынь т-ваў, але дзякуючы бяспланавасьці і бяссыстэмнасьці ў працы на гэтай нарадзе былі пастаўлены даклады, якраз тых т-ваў, якія ня былі абсьледваны і якраз тое, што яны дакладвалі неадпавядала фактычнаму становішчу, як, напрыклад, у Ельскім т-ве пры абсьледваньні выяўлена якраз адваротнае таму, што гаварыў старшыня. Сацспаборніцтва выразілася толькі ў рассылцы па т-вам перадрукованых праектаў, дагавароў і на гэтым спыніліся. Трэба падкрэсьліць, што акрамя водпуску канцэнтраваных кармоў для калгасаў і атрыманьня ад іх часткі малака ніякай іншай агравытворчай працы сярод калгассыстэмы нявялося. Ніякіх мерапрыемстваў не праводзілася акрмалжывёлсаюзам па абагульваньню, частковаму або поўнаму, сродкаў вытворчасьці сяброў т-ваў. Дапамога ішла выключна індывідуальным гаспадаркам і ў выніку гэтага мы маем, што, напрыклад, у Каралінскім раёне там, дзе Аксельмоўскае т-ва разьвіла значную працу сябры т-ва супроць калгасаў.

Усё вышэйпаказанае сьведчыць аб тым, што праца Мазырскага Акрмалжывёлсаюзу не адпаведала правільнай клясавай і каапэрац. лініі, яна павінна перайсьці на новыя рэйкі, неабходна аднавіць апарат таксама як і адноўлена Праўленьне (частка сяброў Праўленьня зьнята з працы). Пры абслугоўваньні да 170 калгасаў (па даным на 1/1-30 г.), 26 т-ваў і 5 райсаюзаў неабходна мець клясава-вытрыманы, разумеючы асноўныя задачы, апарат. Яго трэба аднавіць за лік вылучэнцаў з рабочых. Неабходна, каб мясцовыя органы не на словах, а на справе дапамагалі акруговаму саюзу стаць на ногі і сапраўды ўзяцца за кіраўніцтва сыстэмаю.

Інструктар БМЖС **З. Левін.**

## САД і ГАРОД



# Садоўніцтва і яго задачы ў веснавую сельска-гаспадарчую кампанію

Садоўніцтва Беларусі ўжо выходзіць на шлях шырокага разьвіцьця. Яно штогодна павялічвае сваю ўдзельную вагу сярод іншых галін сельскай гаспадаркі як па займаемай плошчы, па валавой прадукцыі, так па таварнасьці.

Спыненае 15 год таму назад пашырэньне садовае плошчы зноў адноўлена і ідзе шпаркім тэмпам уперад. Напрыклад, у 1928 годзе, які зьяўляецца першым годам новых пасадак пасьля вайны, пасаджана новых садоў 1.300 *га*, а ў 1929 г.—2.500 *га*. На 1930 г. вызначана пасадзіць 4.000 *га*, на 1931 г.—6.000 *га*, а да канца пяцігодкі, гэта значыцца да восені 1933 г., па ўсёй БССР мае быць пасаджана новых садоў да 30 тыс. *га*, што складае з садамі, якія ёсьць зараз—каля 60 тыс. *га*.

Адзначым, што ў даваенны час, у гады так званага найбольшага росквіту сельскай гаспадаркі, пачынаючы з 1910 году па 1914 г., на абшарах сучаснай Савецкай Беларусі засаджвалася ўсяго ў год каля 600 *га* саду—у 6—7 раз менш таго, што робіцца зараз.

Побач з пашырэньнем садовае плошчы штогодна павялічваюцца і ўраджаі садоў, валавы збор садавіны і асабліва яе таварная частка. У залежнасьці ад ураджайнасьці мы зьбіраем зараз па Беларусі

ад 7 да 9 мільёнаў пудоў садавіны, з якіх да 3-х мільёнаў пудоў вывозім за межы Беларусі, у Маскву, Ленінград, Сібір, на Украіну і ў Нямеччыну.

У шмат якіх садовых раёнах пабудаваны альбо будуюцца заводы, на якіх будзе перапрацоўвацца тая частка садавіны, якая ў сьвежым выглядзе не знаходзіць сабе збыту. Зараз ужо працуе досыць магутны плодасушыльны завод на Аршаншчыне ў саўгасе Забалацьце, які разьлічан на перапрацоўку да 1.500 тон сыравіны ў сэзон. У г. Воршы пушчаны ўлетку 1929 г. пладова-вінны завод, які будзе перапрацоўваць да 10.000 тон ягад і яблык; будуюцца магутныя камбінаты ў Гомелі, Бабруйску, разьлічаныя больш як на 7.000 тон сыравіны ў год. Акрамя таго, пабудавана шмат дробных вінаробак і сушпунктаў. Усё гэта вядзе да пашырэньня і паглыбленьня нашага пладовага рынку, стварае спрыяючыя ўмовы пасьпяховаму пашырэньню садоўніцтва ў Беларусі, як аднэй з найбольш таварных галін сельскае гаспадаркі.



Новы сад у Беларускім інстытуце прыкладной батанікі і новых культур (Лошыца).

Надаючы вагромністае значэньне пашырэньню садоўніцтва ў БССР, Народным Камісарыятам Земляробства праводзіцца цэлы шэраг адпаведных мерапрыемстваў. З ліку мерапрыемстваў, вызначаных для ажыцьцяўленьня ў веснавую сельска-гаспадарчую кампанію, на першым месцы пастаўлена пытаньне аб узмацненьні вытворчасьці пасадачнага матар'ялу, неабходнага як для пасадкі новых садоў, так і для рамонту старых. Зараз мы маем на Беларусі 48 пладовых выхавальнікаў, якія заснаваны Белсельтрэстам, мясцовымі зямельнымі органамі і інш. установамі і арганізацыямі на плошчы 404 *га*, з мяркуемым штогоднім водпускам прышчэп да аднаго мільёну штук у год. Пакуль што ўсе гэтыя выхавальнікі знаходзяцца ў арганізацыйнай стадыі і выпускаюць ня ўсю тую колькасьць прышчэп, на якую яны разьлічаны. Так, напрыклад, у 1928 г. была адпушчана першая партыя сажанцаў у 170 тыс. штук, у 1929 г. 300 тыс. штук, на 1930 г. ужо рыхтуецца 450 тыс. штук, а праз два гады ўжо будзе адпускацца каля мільёну. Яшчэ год таму назад здавалася, што гэтая сетка пладовых выхавальнікаў, якая будзе даваць у год мільён штук прышчэп на плошчу саду ў 10 тыс. *га*, зьяўляецца для БССР дастатковай. Зараз-жа, калі мы пачынаем падлічваць запатрабаваньні агракамбінатаў, што будуюцца, і наогул вызначаць тэмп калектывізацыі сельскай гаспадаркі, дык гэтая

сетка робіцца ўжо малою. Зараз нам патрэбна разгарнуць працу так, каб да канца пяцігодкі давесьці штогодні водпуск прышчэп і ягадных саджанцаў на плошчу ў 18—20 тыс. *га*. Для гэтага ў дадатак да сеткі пладовых выхавальнікаў, якая ёсьць, плянам Наркамзему прадугледжваецца арганізацыя ў БССР шасьці спэцыяльных садовых гаспадарак, як асноўных асяродкаў па вырашчваньню пасадачнага матар'ялу, у якім на працягу двух год (1930—1931) павінны быць арганізаваны наступныя аддзелы:

а) пладовы выхавальнік на 100 *га* ў кожнай,

б) школка сеянцаў на 5 *га* ў кожнай,

в) выхавальнік ягадных саджанцаў (парэчак і агрэсту) на 57 *га* ў кожным,

г) ягадныя матачнікі і інш. на 13 *га* ў кожнай.

Арганізацыя такіх гаспадарак, якім надаецца назва садовагародных баз, вызначана ў наступных саўгасах Белсельтрэсту:

1) Віцебская акруга—Беліца-Відокі,
2) Аршанская акруга—Забалацьце,
3) Менская акруга—Зацішша,
4) Бабруйская акруга—Жылічы,
5) Магілеўская акруга—Дашкаўка,
6) Гомельская акруга—Уваравічы.

Вясною 1930 г. ува ўсіх гэтых гаспадарках павінны быць заснаваны школкі сеянцаў і зроблены пасевы насеньня пладовых дрэў у разьмеры неабходным для заснаваньня ўвосені гэтага-ж 1930 году пладовых выхавальнікаў на плошчы 100 *га* ў кожнай базе. У кожнай сад-базе павінны быць зроблены падрыхтоўчыя работы для таго, каб на працягу вясны і да восені было магчыма закласьці ўсе ягадныя матачныя насаджэньні. У Дашкаўцы, Уваравічах і Жылічах павінны быць пашыраны пладовыя выхавальнікі, што там ёсьць, да 24 *га* у кожным саўгасе.

Побач з заснаваньнем памянёных асноўных садовых асяродкаў, павінна быць зьвернута асаблівая ўвага, як з боку зямельных органаў, так і іншых арганізацый, на палепшаньне працы ў існуючых пладовых выхавальніках. Кожны выхавальнік павінен выкарыстаць для пасеваў і пасадак усе матар'ялы і сродкі, якія ёсьць у яго. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на палепшаньне тэхнікі гадоўлі прышчэп у выхавальніках. Трэба так паставіць справу, каб адход расьлін, што высаджаюцца ў выхавальнік, да часу выкапкі на продаж быў ня больш 15—20 проц., замест цяперашніх 40—50 проц. Трэба дабіцца, каб кожны гектар пладовага выхавальніка, які засаджаны прышчэпамі, даваў ня менш 18 тысяч штук, замест цяперашніх 9—12 тысяч.

Другой задачай у веснавую с.-г. кампанію павінна быць падрыхтоўка месц для пасадкі новых садоў.

Як ужо сказана вышэй, плянам Наркамзему прадугледжваецца пасадзіць у 1930 г. 4.000 *га* новых садоў, з якіх 500 *га* ў саўгасах і 3.000 *га* ў калгасах. Пасадка гэтых садоў будзе рабіцца ўвосені, але падрыхтоўка да пасадкі павінна быць распачата зараз-жа.

Перш за ўсё павінны быць абраны саўгасы і калгасы, а ў іх месцы для пасадкі садоў. Гэта праца павінна прайсьці пад агульным кіраўніцтвам садаводаў акруговых зямельных аддзелаў, як асноўных

кіраўнікоў данае галіны ў акрузе. Абіраючы той ці іншы саўгас, або калгас для пасадкі саду, трэба выходзіць з неабходнасьці пасадкі выключна буйных садоў, у некалькі дзесяткаў і соцень гектараў. Не пазьней як да 15 сакавіка ў кожнай акрузе павінен быць сьпіс усіх саўгасаў і калгасаў, у якіх будзе рабіцца пасадка новых садоў і разьмеры плошчаў гэтых садоў. З наступленьнем вясны ў кожным калгасе і саўгасе адведзенае пад сад месца павінна быць добра заворана, угноена і засеяна бульбай.

Побач з падрыхтоўкай да пасадкі новых садоў, павінна быць зьвернута належная ўвага на палепшаньне існуючых садоў, на падвышэньне іх ураджайнасьці.

Ува ўсіх садох саўгасаў і калгасаў павінны быць праведзены ў веснавы пэрыяд наступныя працы:



Новы закладзены сад у калгасе Арэвічы, Мазырскае акругі.

Зьнішчэньне яшчэ да пачатку вясны ўсіх вусенічных гнёздаў, сухога лісьця і пладоў, што засталіся зімаваць на дрэвах.

У пачатку вясны прарадзіць густыя кароны і амаладзіць старыя дрэвы.

Ачысьціць і пабяліць ствалы ўсіх дрэў вапнай, замазаць усе раны і дуплы на ствалох і галінах.

Заараць глебу ў садзе і акапаць прыштамбавыя кругі, адначасова ўгноіўшы яе, выкарыстоўваючы для гэтага, акрамя гною торф, кампост, розныя адкіды, попел, а пры нястачы гэтых угнаеньняў— сеяць лубін.

У міжрадзьдзях маладых садоў зрабіць пасевы гародніх культур, або караньплодаў для кармоў жывёлы. Пасадку дрэў у садох рабіць больш прасторную, яблыні і грушы трэба садзіць ня гусьцей як 10 на 10 мэтраў у прамежным парадку.

Усім пладовым выхавальнікам у акругах і паміж акругамі зрабіць умовы па сацыялістычнаму спаборніцтву, вызначаючы асноўнымі пунктамі найбольшы выхад сажанцаў, патаненьне сабекошту прышчэп і іншых.

**К. Хабэнка.**

# Садоўніцтва БССР на 1-й Усебеларускай выстаўцы

Да нядаўнага часу садавіна ў нас лічылася як ласунак, які меў малае харчовае значэньне. Зараз да садавіны зусім іншыя адносіны, яна ацэньваецца як вельмі важны дапаможны харчовы сродак. Да таго-ж садавіна мае значэньне і як тавар.

Амэрыканскія дасьледчыя станцыі дасьледвалі фрукты, як грунтоўную крыніцу харчаваньня, а таксама розьніцу ў цане паміж харчовымі прадуктамі і фруктамі. Досьледы па фруктоваму харчаваньню рабіліся на Каліфорнійскай с.-г. дасьледчай станцыі і ў Паўночнай Дакоце. Першай устаноўлена, што сярэдняя сутачная норма на аднаго дарослага чалавека выражаецца ад 47 да 80 грам бялкоў і ад 1.850 калёрый да 2.805 калёрый цеплавое энэргіі, ці па ўстанаўленьню Паўночна-Дакоцкай станцыі ад 64 да 68 грам бялкоў, пры 2.579 да 2.610 калёрыях цеплавое энэргіі.

Колькасьць цеплавое энэргіі ў кілёграме яблык 644,4 калёрыі, а ў адным кілёграме ігруш—362,2 кал. Такім чынам, сярэдняя норма на аднаго дарослага чалавека ў дзень ў абсалютных велічынях, па вышэй паказаных даных, будзе: яблык ад 3 да $4\frac{1}{2}$ *клг.* у сьвежым выглядзе, а ігруш ад 5 да 8 *клг.* У сушаным выглядзе: яблык ад 1 да 2 *клг.*, а ігруш ад 1 да 1,6 *клг.*

Мяшанае, у адпаведнай колькасьці фруктовае харчаваньне паміж рознымі фруктамі, пры ўжываньні мёду і праванскага масла, можа ў поўнай меры замяніць іншыя харчовыя прадукты, а тым больш спажываньне фруктаў можа быць з посьпехам ужыта ў спалучэньні з іншымі харчовымі прадуктамі ў пэўных суадносінах.

Па назіраньнях над людзьмі, якія харчаваліся толькі фруктамі, у іх поўнасьцю былі захаваны і здароўе і сіла. Адсюль можна бачыць, якую вартасьць маюць фрукты для харчаваньня.

Умовы для вырашчваньня садоў у БССР спрыяючы як з боку глебы, клімату і ападкаў, так і з боку догляду.

У нас, праўда, не заўсёды дастатковае сонечнае асьвятленьне, але пры правільным разьмяшчэньні дрэў у садзе як у радох, гэтак і паміж радамі, даўшы ім належную (оптымальную) адлегласьць, можна скарыстаць сонечнае сьвятло так, што яго будзе досыць.

Плошча, занятая садамі ў БССР займае 30.000 *га.* Складаецца яна з садоў дробных сялянскіх гаспадарак да 10 проц., а рэшта з садоў саўгасаў і калгасаў. Усе сады засаджаны вельмі густа, часта, на не адпаведнай глебе і ў большасьці старыя. Сялянскія-ж сады, як распыленыя, трацяць зараз пры арганізацыі буйных калгасаў, сваю вартасьць. З прычыны гэтага сады ў БССР маюць эканамічна-прадукцыйнае значэньне нязначнае. Самыя каштоўныя з іх гэта групавыя сады, нядаўна закладзеныя ў пасёлках. Гэтыя сады, якія ў сучасны момант ужо сады калгасныя, неабходна пашыраць. Калі лічыць усе сады на плошчы ў 30.000 *га* прыдатнымі к плоданашэньню, дык на 1 душу насельніцтва БССР прыдзецца 60 кв. мэтраў плошчы садоў, тады як у Злучаных Штатах 218,5 кв. мэтр., у Аўстраліі 164 кв. мэтр., у Германіі 120 кв. мэтр., па ўсяму СССР—44 кв. мэтр., а ў Англіі 21,8 кв. мэтр. Як бачым, толькі Англія стаіць ніжэй БССР па плошчы саду, якая прыпадае на 1 душу насельніцтва. Па даных праф. Шыта, ураджай з 1 *га* усіх

фруктаў БССР раўняецца 37 цэнтнэрам. Такім чынам на адну душу насельніцтва БССР прыпадае 22,2 *клг* садавіны ў год, у той час, як у Францыі 113,05 *клг,* у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах 90,2 *клг,* у Нямеччыне 77,73 *клг.* Як бачым, у БССР сярэдняя гадавая норма спажываньня фруктаў на аднаго дарослага чалавека, калі-б яны ўсе спажываліся на месцы, амаль што набліжаецца да магчымай нормы спажываньня ў 7 дзён (гадавая на 1 дарослага чалавека, у нас 22,2 *клг.*), а магчымая норма спажываньня ў дзень, па даных Амэрыканскіх дасьледчых станцый, яблык ад 3 да 4,5 *клг,* а ігруш ад 5 да 8 *клг.* Калі прыняць пад увагу, што значная колькасьць садавіны ў Беларусі экспартуецца як на замежны рынак, так і на буйныя рынкі СССР, то для спажываньня мясцовым насельніцтвам застаецца вельмі нязначная колькасьць. Калі прыняць усё дарослае насельніцтва БССР за 1½ мільёны, а для спажываньня лічыць 3 *клг* фруктаў у дзень (сырых і інш. у пераводзе на сырыя), дык у год патрэбна будзе 16½ мільёнаў цэнтнэраў, тады як зараз мы маем 1 мільён 110 тысяч цэнтнэраў, г. зн. гадавая нястача садавіны больш 15 мільёнаў цэнтнэраў.

Да таго-ж садавіна ва ўсіх яе відах: сырая, сушаная, мармалад, пасьціла, віно і г. д. зьяўляецца добрым экспартным таварам для адпраўкі на замежныя рынкі. Важнасьць разьвіцьця і неабходнасьць пашырэньня садоўніцтва на Беларусі становіцца відавочнай. Каб поўнасьцю забясьпечыць патрэбы насельніцтва ў садавіне, садоўніцтва БССР неабходна пашырыць, на падставе вышэй прыведзеных разьлікаў, у 14 разоў. Гэтае пашырэньне павінна ісьці ня толькі па лініі павялічэньня колькасьці садоў, але і па лініі паляпшэньня іх якасьці, па лініі падвышэньня ўраджайнасьці. Якасьць садавіны да гэтага часу была ня вельмі добрая з прычыны нядбайных адносін да садоў, адсутнасьці належнага догляду за імі і, галоўнае, з прычыны няправільнай закладкі садоў, што адбівалася дрэнна на якасьці і колькасьці. Толькі 2—3 г. таму назад праф. Беларускай Дзяржаўнай с.-г. Акадэміі М. І. Бурштэйн стаў прапагандаваць пасадку буйных садоў на БССР, на адлегласьці дрэва ад дрэва 11—15 мэтраў у 4-х кутным парадку. Гэтая пасадка дае мажлівасьць весьці міжрадную апрацоўку глебы трактарам (таму і вышыню кароны ад зямлі раіцца рабіць да 1,25 мэтраў), каб поўнасьцю скарыстаць сонечнае сьвятло і мэтазгодней скарыстаць глебу ў міжрадзьдзі сада.

Сады да гэтага часу садзіліся на адлегласьці 6½ м. і рэдка дзе на адлегласьці 8—9 мэтраў. Да 10-гадовага ўзросту яны зацянялі ўсю плошчу, сьвятло амаль што зусім не пранікала да глебы. Апрацоўка глебы ў такім садзе вялася дрэнная, а то і зусім не вялася, бо нізкія кароны перашкаджалі коннай апрацоўцы. Плады былі дробныя, хворыя, бо вельмі лёгка заражаліся ад суседніх дрэў, асыпаліся ад недахопаў спажывы ў глебе, не высьпявалі ад недахопу сьвятла і г. д.

Садоўніцтва ў далейшым павінна разьвівацца ў форме буйнейшых садоў у калгасах і саўгасах з разьлікам, каб плошча пад імі ня менш як да 40-годняга ўзросту саду скарыстоўвалася пад гародныя і інш. інтэнсыўныя культуры. Яны не павінны закладацца на плошчы менш як 100 *га* ў адным масыве. Скарыстаць для гэтага трэба быўшыя сядзібы і прысядзібныя плошчы, вёсак, якія перайшлі ў калгасы. Гэтыя плошчы, як вядома, добра запраўлены арганічнай масай (гноем). Сады павінны быць індустрыяльнага напрамку. Закладка буйных садоў павінна адбывацца, у першую чаргу, бліжэй да гораду, дзе трэба разьвіваць і гароды ў садох.

Прыкладам такога буйнага саду ў мініатуры (у паменшаным памеры) і зьявіцца сад на тэрыторыі 1-й Усебеларускай Выстаўкі сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, які закладзен увосень 1929 г. на плошчы 6 *га*. Адлегласьць яго паміж радамі 15 мэтраў, а ў радох 12 мэтраў дрэва ад дрэва ў 4-х кутным парадку. Падрыхтоўка глебы праведзена з вясны 1929 г. Плошча была засеяна лубінам, які ў пэрыяд цьвіценьня, глыбока заворваўся трактарнымі плугамі разам з гноем і перагноем з парнікоў. Гною і перагною клалася з разьліку да 650 цэнтнэраў на гектар. Пасьля заворкі поле было выбаранавана і так заставалася да пасадкі саду. Лепш поле перад пасадкай саду займаць карань-клубня-плодамі па арганічнаму ўгнаеньню (пагною).

Сад такім чынам садзіўся ў загадзя падрыхтаваную глебу, ямкі капаліся перад самай пасадкай на такую глыбіню і шырыню, каб толькі можна было зьмясьціць карэньні дрэва па каранёвую шыйку. У асноўным быў намечан наступны асортымэнт пладовых дрэў, які павінен ужывацца ў прамысловых садох БССР у наступнай прапорцыі:

**I. Зімовыя гатункі:**

1) Антонаўкі камянічкі . . . . . . . . . . 50 проц.
2) Бабушкіна . . . . . . . . . . . . . . . 15 „
3) Штэцінскага чырвонага . . . . . . . 20 „
4) Каштэля . . . . . . . . . . . . . . . 15 „

**II. Асеньнія гатункі:**

1) Штрэйфлінг . . . . . . . . . . . . . 70 „
2) Шэрынкі . . . . . . . . . . . . . . . 30 „

**III. Летнія гатункі:**

1) Наліў белы . . . . . . . . . . . . . . 30 „
2) Цынамонавая паласатая . . . . . . . 40 „
3) Суйсьлепская . . . . . . . . . . . . 30 „

**IV. Ігрушы:**

1) Бэра слуцкая . . . . . . . . . . . . 50 „
2) Лясная прыгожая . . . . . . . . . . 50 „

Наогул у такіх буйных садох намячалася 90 проц. яблынь і 10 проц. груш, з 60 проц. зімовых, 20 проц. асеньніх і 20 проц. летніх гатункаў.

Дзякуючы таму, што намечаны асортымэнт толькі 2 гады таму назад як стаў узрошчвацца ў гадавальніках БССР для масавага распаўсюджваньня, поўнасьцю знайсьці яго не ўдалося, і таму ў садзе тэрыторыі Выстаўкі зроблены невялічкія адступленьні. Так, не знайшлі нідзе каронiстых дрэў Каштэля і прышлося замяніць іх звычайнай антонаўкай і г. д. Усяго высаджана на 6 *га* 348 дрэў.

Крыжавое апылкаваньне ў пладовых дрэвах мае вялікае значэньне, уплываючы станоўча на завязваньне пладоў, таму неабходна дрэвы ў садзе разьмяшчаць так, каб былі заўсёды апылкавацелі.

На падставе папярэдніх вынікаў Лошыцкай дасьледчай станцыі, патрэбна зьмяшчаць 1 апылкавацель на 8 дрэў, таму так і разьмешчаны апылкавацелі ў садзе тэрыторыі Выстаўкі. У якасьці апылкавацелей для антонаўкі звычайнай, антонаўкі камянічкі, штэцінскага чырвонага і шэрынкі, узяты штрэйфлінг і цынамонавае паласатае, для белага

наліву—суйсьлепская і г. д. Гэтым забясьпечана поўнае апылкаваньне дрэў, чым зводзіцца да мінімуму пустацьвет.

Плошча паміж радоў у такім садзе будзе заўсёды цалкам скарыстана іншымі культурамі і гэта карысна таму, што пакуль сад не пладаносіць, усе страты па закладцы яго акупяцца ў першыя-ж гады прыбыткам ад гародніцтва і інш. культур, якія ўзрошчваюцца ў садзе. У садзе тэрыторыі Выстаўкі будуць дэманстравацца наступныя садавыя севазвароты:

I

1 поле—клубніка (на адным месцы 3 гады).

2 поле—капуста качанная, гуркі, бручка, салата і інш. лісьцяныя. расліны, якія патрабуюць сьвежага ўгнаеньня.

3 поле—сталовыя караньплоды і цыбуля.

4 поле—бабовыя расьліны.

II

1 поле—лубін на ўгнаеньне.

2 поле—бульба сталовая раньняя па гнаі ў невялікай колькасьці.

3 поле—бабовыя расьліны.

4 поле— кармовыя караньплоды па штучнаму ўгнаеньню.

Акрамя гэтага ў невялікай частцы будзе дэманстравацца сад у 3—4 паверхі. Першы паверх, лічучы зьверху, складаецца з асноўных дрэў саду—яблынь і груш. Другі паверх—сьлівы і вішні, якія высаджваюцца ў радох яблынь і ігруш. Трэці паверх—ягадныя кустарнікі: маліна, парэчкі, агрэст, якія высаджваюцца паміж радамі дрэў. Чацьверты паверх—клубніцы, якія высаджваюцца вузкаю істужкай ня шырэй аднаго міжрадзьдзя і праходзяць праз міжрадзьдзі занятыя ягаднымі кустамі малінай, агрэстам і парэчкамі.

Такое разьмеркаваньне культур паказвае, як найлепш выкарыстаць шырокае міжрадзьдзе ў садзе пры розных эканамічных умовах раёну. Напрыклад, у прыгарадных раёнах, у раёнах чыгунак, якія зьвязваюцца з рынкамі збыту, у раёнах фабрык і заводаў і г. д. Найлепш міжрадзьдзі выкарыстоўваюць гароднінай, ягаднымі расьлінамі і костачкавымі пладовымі пародамі, як самымі рэнтабельнымі культурамі пры гэтых умовах. Падставы для разьвіцьця ягадных і костачкавых культур наступныя: клубніка пачынае даваць прадукт з першага году пасадкі. Праз 3 гады яна ўступае месца ягадным кустарнікам. Ягадныя кустарнікі пачынаюць даваць прадукт праз 3 гады ў працягу 10—12 год і потым уступаюць месца костачкавым пародам. Праз 20—25 год костачкавыя пароды ўступаюць месца галоўным пладовым пародам саду—яблыням і ігрушам, якія ў гэты час дасягаюць поўнага росквіту.

У раёнах не забясьпечаных блізкім рынкам збыту, у садзе раіцца другі палявы севазварот, менш інтэнсыўны, прыстасаваны для жывёлагадоўлі і які не патрабуе значнага ўгнаеньня. Пры арганізацыі такіх садоў, асабліва пры першым варыянце севазвароту і 4 ярусным выкарыстаньні глебы ў садзе, ставіцца абавязковая арганізацыя тэхнічных прадпрыемстваў па пераапрацоўцы ягад і садавіны, а таксама нават гародніны.

Ва ўсіх такіх буйных садох неабходна разьмяшчаць пасекі ня толь-з мэтаю атрыманьня мёду, але галоўнае, з мэтаю апылкаваньня расьлін і ў прыватнасьці апылкаваньня саду. Такая пасека, яе ўзор, арганізуецца ў садзе на тэрыторыі Выстаўкі з адпаведнымі засевамі мёданосных расьлін.

Аграном **П. М. Сяргейчык**

# Глівенскі пладовы выхавальнік

*(Барысаўскі р., Менск. акр.)*

Глівенскі пладовы выхавальнік мае акруговае значэньне. Арганізаваны ён у 1925 г. на месцы ліквідаванага саўгасу. Задачай выхавальніка зьяўляецца вырашчваньне саджанцаў пладовых дрэў, ягадных кустоў і гароднага насеньня. Апрача таго, выхавальнік ставіць мэтай паказ правільнага вядзеньня садоўніцтва, гародніцтва і часткова пчалярства.

Гаспадарка выхавальніка займае плошчу ў 111,31 гект., з якіх занята пад сядзібу 4,92 гект., выхавальнік і поле 30,76 гект., сенажаці 41,89 гект., пад лесам 26,03 гект., рэшта—няўдобіца. Выхавальнік існуе на самаразрахунку.

Асноўнымі галінамі гаспадаркі зьяўляюцца вырашчваньне для продажу саджанцаў і жывёлагадоўля. Пад саджанцамі яблынь і ігруш знаходзіцца 7 гект., пад гародам 3 гект., пад занятым полем 7 гект., пад садам 1,5 гект. У выхавальніку вырашчваюцца наступныя гатункі яблынь: антонаўка, бабушкіна, штрэйфлінг і ігрушы: бесьсямянка, сапяжанка, вінёўка.

У мінулым годзе адпушчана з выхавальніка для савецкіх, калектыўных гаспадарак і для групавых садоў 12.000 саджанцаў і для сялян вакольных вёсак 600 саджанцаў. Апрача таго, выхавальнік прадаваў парэчкі, трускаўкі, маліны і насеньне гародніны: сталовых буракоў (эгіпэцкіх), морквы карацель, капусты (браўншвэйская), гуркоў. Чыстага прыбытку атрымана 1.500 руб. У гэтым годзе мяркуецца атрымаць прыбытку 2.500 руб.

Моцныя марозы ў мінулую зіму прынесьлі вялікую шкоду гаспадарцы выхавальніка: шмат саджанцаў памерзла і ня можа пайсьці на продаж.

Выхавальнік выпаўняе чыста практычныя задачы—вырашчваньне саджанцаў ужо апрабаваных яблык і ігруш. Якіх-небудзь дасьледчых мэт у пляне свае працы выхавальнік ня мае, а між тым некаторыя досьледы павінны былі-б весьціся як у галіне садоўніцтва, так і гародніцтва, асабліва ў сувязі з пастаноўкай задачы палепшаньня гэтых галін у калектыўных гаспадарках.

Жывёлагадоўля зьяўляецца вельмі важнай галінай гаспадаркі выхавальніка, у якім зараз ёсьць 12 кароў чырвонай нямецкай пароды, 3 шт. маладняка, 1 бык-вытворнік, 3 рабочыя кані і 1 вытворнік, 2 кныры ангельскай пароды Малако збываецца ў Барысаўскі ЦРК.

Пчол ёсьць 15 рамачных вульляў. Пчолы разводзяцца, галоўным чынам, з мэтай лепшага апладненьня пладовых дрэў, кустарнікаў і гародных расьлін. Але-ж пчалярства, як вядома, дае і пэўны прыбытак. У раёне-ж дзейнасьці выхавальніка, пчалярства не пашырана з прычыны слабай зацікаўленасьці насельніцтва гэтай справай. Трэба пчалярную гаспадарку папулярызаваць сярод бядняцка-серадняцкае часткі насельніцтва.

Выхавальнік праводзіў працу сярод мясцовага насельніцтва, дапамагаў бядняцкім гаспадаркам у апрацоўцы зямлі, даваў дармова капусную расаду (3.000 шт.), памідораў і інш., пакрыў вытворнікамі 42 сялянскіх каровы (5 бясплатна), 8 кабыл (2 бясплатна), 11 сьвіней, даваў парады па пытаньнях жывёлагадоўлі і гародніцтва. У сувязі

з пашырэньнем працы выхавальніка сярод мясцовага бядняцка-серадняцкага насельніцтва, палепшыліся і адносіны сялян да выхавальніка.

У далейшым выхавальнік ставіць сваёй задачай пашырыць плошчу для вырашчваньня саджанцаў да 22,5 гект., пад ягадныя кусты да 5 гект., пад дэкарацыйныя дрэвы (ясень, клён і інш.) да 1,5 гект., а таксама распачаць вырашчваньне лазы для пляценьня кошыкаў, якая будзе збывацца ў Менск.

У бліжэйшыя гады мяркуецца штогод выпускаць каля 60.000 саджанцаў яблык і ігруш, ягадных кустоў да 30.000 шт., дэкарацыйных дрэў—10.000 шт., трускавак—10.000 шт., лазы—8.000 *кгр*.

Выхавальнік мае ўжо некаторы ўплыў на палепшаньне гародніцтва і садоўніцтва ў бліжэйшых вёсках. Жанчыны, працуючы ў гародзе выхавальніка, пераймаюць спосабы апрацоўкі зямлі пад гародніну, навучаюцца належным чынам даглядаць за гароднінай і г. д. Было-б вельмі добра, калі-б жанчынам у часе іх працы даваліся належныя практычныя тлумачэньні аб лепшых спосабах апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, пасадкі насеньня і г. д.—гэта было-б добрай практычнай школай для іх па гародніцтву. Гэтага пакуль што няма.

Грамадзкую працу выхавальніка трэба павялічыць сярод ваколічнага насельніцтва ў напрамку пасадкі і догляду за садам, паляпшэньня спосабаў вядзеньня гародніцтва і пчалярства. **В. С.**

---

## Пра культуру морквы

Першае, на што трэба зьвярнуць увагу пры культуры морквы, гэта паменшыць працу пры апрацоўцы 1 гектара морквы. Да гэтага часу 1 гектар морквы, пры пасеве на градках, патрабаваў ад 275 да 300 працоўных дзён. Пры пасевах морквы на значных плошчах у калгасах і садова-гародных таварыствах, выдаткі на апрацоўку даволі значныя, таму трэба зусім адмовіцца ад градак і пры пасеве морквы для стала, а ўвесь пасеў зрабіць на роўных пляцоўках. Пасеў магчыма рабіць ручны, ручной севалкай „Планэт“ і коннай севалкай.

Пасьля баранаваньня перад пасевам трэба вучастак ушчыльніць, крыху прыкатаўшы яго катком.

Пасеў трэба рабіць стужкавы: праз кожныя два рады застаўляецца дарожка ў 35 сантым., а рад ад раду 20 сантым. У радох застаўляюць расьліны на 10—14 сантым. адна ад другое. Вопытамі даведзена, што ў лепшай глебе трэба засяваць гусьцейшыя рады. Пры гэтым кожны корань уасобку будзе крыху меншы, затое ўраджай будзе большы.

Пачынаць пасеў трэба ўвесну, як мага раней; як толькі сьнег растаў і можна прыступіць да працы на гародзе, глебу трэба ўспульхніць, прабаранаваць, потым лёгка прыкатаць і пачаць сеў. Глыбока моркву сеяць ня трэба. Сеяць трэба на глыбіню 1—$2^{1}/_{2}$ сант. Чым надвор‘е больш сухое, тым глыбей трэба сеяць.

Радавы пасеў можна праводзіць уручную, альбо коннай сявалкай. Сявалкі даюць магчымасьць рэгуляваць глыбіню, густату пасеву ў радох і адлегласьць між радамі. Насеньня на гектар морквы трэба даць 7—9 кілёграмаў. Для больш раўнамернага высеву насеньне трэба зьмяшаць з пілавінамі, пяском ці глебай так, каб на шклянку насеньня прыходзілася 3 шклянкі пілавін, пяску ці глебы.

Усім вядома, што морква прарастае вельмі марудна—праз 3—4 тыдні. За гэты час усё пустазельле ўсходзіць і заглушае пасевы морквы. Морква ў першыя тыдні вельмі кволая і маленькая, таму першую полку трэба зрабіць як мага раней, каб пустазельле своечасова зьнішчыць між радоў і ў радох. Для больш шпаркага вызначэньня радоў, пры пасеве прымешваюць на 1 кілёграм морквы 100—120 гр. шпінату, 130 гр. маку, 80—100 гр. рэдыскі, 50—60 гр. салату альбо інш. расьлін. Гэтыя расьліны можна зьнішчыць пры першай полцы, а можна іх і пакінуць, бо яны праз 5—8 тыдняў вызваляюць месца пасеву. Вялікай шкоды морквы не прынясуць, бо морква цені не баіцца ў першыя тыдні, а гэтыя падсеўныя расьліны могуць даць добры прыбытак.

Калі вызначацца рады—магчыма праз тыдзень пасьля пасеву прыступіць да пульхненьня міжрадзьдзеў ручным „Планэтам". Прылада гэта каштуе ўсяго ад 12 да 17 руб. За 1 дзень магчыма ўспульхніць 1 працаўніку ад 1.700 да 2.000 кв. мэтр., у той час як 1 жанчына ўручную можа прапалоць усяго 2 грады альбо 40 кв. м. Трэба мець на ўвазе, што „Планэтам" можна добра і хутка працаваць на вучастках, якія ня вельмі зарасьлі пустазельлем, таму трэба праз кожныя 10—14 дзён праходзіць „Планэтам" між радамі. Полка ўручную праходзіць шпарчэй, калі для гэтага карыстацца палольнай лапкай. Каштуе яна 50 к. Яе, як і „Планэт", трэба мець у кожным калгасе.

Пасьля першай полкі моркву пакідаюць на адлегласьці ў раду 2 сантымэтры. Як толькі морква аслабанілася ад пустазельля, яна вельмі шпарка ідзе ў рост. Каб глеба была чыстая ад пустазельля паміж радамі, праз 3—4 тыдні пасьля першай полкі трэба зрабіць другую. Аднача́сова з гэтым трэба пракапаць моркву ў радох, з тым, каб адлегласьць між расьлінамі ў раду была 10—12 *см.*

Другую полку і пракопку магчыма зрабіць матыкай, альбо рукамі.

На насеньнікі моркву трэба прыбраць да першых маразоў. Вельмі добра ідзе прыборка такім чынам: ідуць уздоўж радоў раніцаю і вырываюць кароткія і поўкароткія сарты, а другія выкапываюць—і тут-жа кладуць іх радамі. Праз некалькі часоў, а калі надвор'е стаіць добрае, дык праз дзень—корань пераварачваюць на другі бок, з тым, каб і ён добра абсох.

Пасьля прасушкі, морква асьцярожна складваецца на 2—3 дні ў кучы, каб націньне глядзела наружу, пасьля чаго прыступаюць да яго абрэзкі. Абразаць націньне насеннае морквы трэба так, каб у галоўцы застаўся пянёк ня больш 2—3 сантымэтраў, бо доўгае націньне пры захаваньні хутка адмірае і шкодзіць гэтым насеньнікам морквы. На насеньне трэба адбіраць добрыя экзэмпляры, бяз ніякіх шчылін, парэзаў, раздвоеных каранёў і няпрыгодных па афарбоўцы, форме і велічыні.

Чым лепш адабраны насеньнікі, тым лепш і даражэй будзе насеньне. Адбіраць насеньнікі трэба як у момант складваньня іх з націньнем у кучы, так і ў час адрэзкі націньня.

Аграном **Л. Калер**

---

## Разводзьце маліну

Ягады маліны шырока ўжываюцца як у сырым відзе, так і ў цукерных вырабах. Настойка з кветак маліны лічыцца вельмі добрым сродкам супроць укусу гадзюкі (патагоннае). На разьвядзеньне маліны неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу, тым болей, што культура яе ня вельмі

складаная. Ягады-ж заўсёды знойдуць шырокае спажываньне ў калектыўнай гаспадарцы і лёгкі збыт на рынку.

У нас на Беларусі цана на маліну ў мінулым годзе была прыблізна 1 рубель за кілёграм. З невялічкага кавалку зямлі, напрыклад, з 1/4 гектару засаджанага малінай, пры добрым доглядзе можна атрымаць у год 2.000 кілёграм ягад, што пераведўшы на грошы дае 2.000 рублёў (у 2 гады). Лічба, праўда, баечная і прывабная. Баечнай яна здаецца таму, што ў нас на такіх плошчах малiньнiкаў не разводзяць. Зараз, калі мы пераходзім на калектыўную гаспадарку, выдзеліць невялічкі кавалак зямлі—гектар ці паўгектара ў калектыўнай гаспадарцы заўсёды можна.

Маліна расьце на ўсякай глебе, але толькі на пульхнай і ўрадлівай можна атрымаць добры ўраджай і буйныя ягады. Падрыхтоўку глебы неабходна зрабіць за месяц перад пасадкай. Лепш за ўсё рабіць перакопку, перавал усяго кавалку на глыбіню 0,5 мэтра. У часе перакопкі кладуць гной прыблізна 16 кілёграмаў на 1 кв. мэтр. Замест перавала можна перакапаць глебу канаўкамі. Капаюць канаўку ў 0,5 мэтра глыбіні і 0,75 мэтра шырыні. У канаўку насыпаюць зямлі, перамешанай з гноем. Канаўку трэба капаць у напрамку з поўначы на поўдзень, каб у поўдзень сонца прагравала мацней глебу. Маліна любіць прастор і сьвятло. Зацяненьне і гушчыня кустоў шкодна адбіваецца на маліне, ягад атрымліваецца мала, яны не сакавітыя і нясмачныя. Кусты ў малiньнiку павінны расьці так, каб кожны куст можна было вольна абыйсьці наўкола. Ня любіць таксама маліна і сухога, гарачага месцапалажэньня з моцным прыпёкам сонца. Наогул маліна некалькі любіць вільготную глебу, бо на сухой кусты падсыхаюць і ягады вельмі часта асыпаюцца (асабліва гэта назіраецца на поўдні Саюзу). У нас на Беларусі гэта трапляецца толькі на лёгкіх глебах. Зразумела, глеба не павінна быць і занадта мокрай, бо маліна пакутуе ад надмернай вільготнасьці глебы.

Маліна—расьліна двухгадовая—кожны паростак жыве толькі два гады. У першы год ён выходзіць з зямлі, але ягад не дае. На другі год на парастку вырастаюць пладовыя галінкі, зьяўляюцца кветкі і ягады. Увосень гэтыя парасткі-дубцы засохнуць і на іх зьмену ўлетку зьявяцца новыя маладыя парасткі-дубцы, якія ў наступным годзе будуць даваць ягады і ўвосень засохнуць.

Лепшы час для пасадкі маліны—канец жніўня і пачатак верасьня. Маліну садзяць звычайна летнімі парасткамі-дубцамі, якія адыходзяць ад куста ўва ўсе бакі на 1—2 мэтры, бо сьцябло і корань маліны дае масу галінаваньняў. Карэньне маліны пускае глыбока, на 0,5 мэтра, таму перад пасадкай кустоў глебу ў малiньнiку трэба глыбока перакапаць (0,5 мэтра). Перад пасадкай карэньні кусьцікаў (дубцоў) акунаюць у разьведзены з вадой сьвежы гной з глінай і саджаюць на адлегласьці 1,5 мэтра адзін кусьцік ад другога. Пасадку паліваюць вадкім угнаеньнем Кусьцік (дубец) на новым месцы павінен сядзець ня глыбей, чымся на старым. Пасьля пасадкі верхавінкі дубцоў зразаюць на 20—25 сант. Месяцы праз два, у канцы кастрычніка, пасадку неабходна моцна абрэзаць, заставіўшы кусьцікі ў 0,5 мэтра вышынёю. Робіцца гэта для таго, наб малады сьцябло-корань меў досыць сілы на разьвіцьцё і плоданашэньне пасаджаных парасткаў і на рост будучых маладых дубцоў, якія зьявяцца вясною будучага году. Абрэзаўшы дубцы да вышыні 0,5 мэтра, мы даем магчымасьць сьцяблу-кораню замацавацца і сабраць больш сілы на разьвіцьцё будучых маладых дубцоў. Моцныя, акрэпшыя маладыя дубцы будуць добра пладанасіць

і дадуць добры ўраджай. У канцы ліпеня, калі ўраджай сабраны і новыя дубцы вырасьлі прыблізна ў 1 мэтр вышыні, верхавінкі іх трэба прышчыпнуць, каб застанавіць іх рост і згрупаваць усе сілы расьліны на сярэдняй частцы дубца. Дубцы таўсьцеюць, мацнеюць і пускаюць парасткі з бакоў. З іх трэба пакінуць—5—6 лепшых, моцных, а рэшту дробныя і кволыя адцяць. Не ўва ўсіх гатунках маліны моцныя пучкі разьвіваюцца на аднолькавай вышыні. У Марльбора сільныя пучкі сядзяць якраз на канцах дубца, таму адцінаць верхавінкі парасткаў у гэтага гатунку зусім ня трэба. Наогул, як правіла, у маладой плянтацыі абрэзка робіцца слабая, а ў старых кустоў абрэзка парасткаў робіцца заўсёды моцная.

Праз некаторы час пасьля пасадкі маліна разрастаецца ў моцныя кусты, з добра разьвітай каранёвай сыстэмай, якія хутка сушаць глебу і высіляюць яе, таму для атрыманьня добрых ураджаяў глебу ў малініках неабходна штогодна добра ўгнойваць. Лепшым угнаеньнем для маліны трэба лічыць паўперапрэўшы гной. Сьвежы саломісты гной хутчэй шкодны, чым карысны, бо служыць добрым месцам распаўсюджваньня для розных шкоднікаў маліны. Вельмі карысным лічыцца ўжываньне штучных угнаеньняў на малініках, як дадатковых да гною. Можна ўжываць крывяную муку, фосфарна-квасныя і калійныя солі (супэрфасфат павялічвае ўраджай, дапамагае стварэньню пладовых пучкоў). Пячны попел служыць добрым каліевым угнаеньнем, падвышае ўраджай і робіць яго штогодна раўнамерным. Вапну ўжываць ня трэба, асабліва ў нас на Беларусі, на лёгкіх, пясчаных глебах. Ад прысутнасьці вапны пляды атрымліваюцца заўсёды сухімі і костачкі ў іх надта разьвіваюцца, што значна абясцэньвае маліну.

З досьледу, які я прарабіў на працягу 5 год, я-б раіў асабліва на пустых, якімі зьяўляюцца нашы беларускія глебы, чалавечае ўгнаеньне. Ужываць апошняе трэба такім чынам: увосень, выкапаўшы паміж кустамі невялікія ямачкі на адлегласьці 0,5 мэтра ад куста, унесьці ў ямачкі па аднаму вядру чалавечага ўгнаеньня і прысыпаць зямлёй. Праз год глебу ў малініку неабходна перакапаць, унесьці перапрэўшага гною і пасыпаць паміж кустамі попел. Чалавечае ўгнаеньне трэба ўжываць праз 2 гады, а попелу не шкадаваць. Ураджаі атрымліваюцца дзіўныя. Ягады буйныя і вельмі смачныя. Чалавечае ўгнаеньне трэба даваць далей ад кустоў, бо гэта ўгнаеньне вельмі моцнае і можа дужа абпальваць карэньні і замест карысьці можа прынесьці часам шкоду. Унасіць яго трэба позна ўвосень, у сярэдзіне кастрычніка і лепш пасьля вялікага дажджу, які добра прамочыць зямлю. Чалавечае ўгнаеньне, як упаміналася, трэба ўнасіць ня штогодна, а праз два гады. Напрыклад, восень 1924 г.—чалавечае ўгнаеньне, восень 1925 г.—ускопваньне, перапрэўшы гной і попел, восень 1926 г.—чалавечае ўгнаеньне, восень 1927 г.—ускопваньне, перапрэўшы гной і попел, восень 1928 г.—чалавечае ўгнаеньне і восень 1929 г.—ускопваньне, перапрэўшы гной, попел і г. д. Угнойваючы малінік такім чынам можна трымаць кусты на адным месцы каля 20 год.

Выполваньне і пульхненьне глебы вытвараецца разоў тры на працягу ўсяго лета. На поўдні і асабліва ў засушлівых мясцовасьцях пульхненьне глебы абавязкова павінна вытварацца пасьля кожнага вялікага дажджу.

З гатункаў добра плоданосячых на Беларусі і ў сярэдняй паласе СССР належыць раіць наступныя:

1. *Біліярда*—плады вельмі буйныя. Мякіш сакавіты і пахучы. Не разварваецца пры варцы. Парасткі моцныя, гатунак вельмі ўрадлівы. Дае плады да самых марозаў. Лепшая з гатункаў маліны. Пераносіць сухмень. Гатунак прамысловы.

2. *Марльбора*—плады вельмі буйныя. Мякіш салодкі і пахучы. Рана пасьпявае. Дубцы моцныя, не патрабуюць падвязваньня. Не баіцца марозу. Гатунак вельмі ўрадлівы і на лёгкай пясчанай глебе, калі апошняя добра ўгноена.

3. *Кутбэрт*—плады буйныя. Мякіш пахучы, салодкі і смачны. Рост сільны, парасткі роўныя. Дасьпявае позна. Не баіцца марозаў і сухменяў, але патрабуе добра ўгноенай глебы. Надта добры прамысловы і вельмі ўраджайны гатунак.

4. *Галіяф*—плады вельмі буйныя. Куст моцнага росту. Пераносіць сухмень і надзвычайна ўрадлівы.

5. *Галанка*—ягады вельмі буйныя. Куст сярэдняга росту, надзвычайна ўрадлівы. Слаба размнажаецца. Любіць абароненае месцапалажэньне.

Усе гэтыя гатункі высокаўраджайныя, з вельмі буйнымі з прыемнымі на смак ягадамі. Не разварваюцца пры варцы і добра пераносяць перавозку і могуць быць параены да разьвядзеньня ў каляктыўнай гаспадарцы.

Некаторыя гатункі маліны баяцца марозаў (напр., Галанка), таму на зіму дубцы трэба прыгінаць да зямлі. Прыгнутыя да зямлі дубцы западаюць сьнегам і ня так прамярзаюць. Вясною маліньнік трэба падвязаць, бо непадвязаныя дубцы хіляцца на бакі, заценяюць сьвет адзін другому і шкодзяць росту новых дубцоў. Некаторыя гатункі растуць добра і без падвязкі, як, напрыклад, Марльбора.

Г. Бабруйск. Настаўнік **С. Яфрэмаў.**

---

# Аб культуры памідораў

Памідоры ў апошні час пачалі разводзіцца як гарадзкімі гароднікамі, так і сялянамі ня толькі на поўдні ў Крыме, на Украіне, але і ў нас у БССР.

Я займаюся разьвядзеньнем памідораў 13 год, з якіх апошнія 8 год у Бабруйску. Глеба ў мяне дзярнова-падзолістая. Грады падрыхтоўваюцца з восені. Угнойваюцца леташнім перапрэўшым гноем (памідоры наогул любяць перагной старой сілы). Кавалак зямлі, дзе будуць расьці памідоры, павінен глыбока ўзорвацца і пакідацца ў такім выглядзе на зіму. Вясной зноў глыбока ўзорваецца. Грады выцягваюцца з захаду на ўсход. З паўночнага боку яны абараняюцца плотам. Града робіцца вышынёю на 30 сантымэтраў (7 вяршкоў). Высокая града неабходна для лепшага праграваньня глебы сонцам. У сярэдзіне або ў канцы сакавіка насеньне памідораў высейваецца ў гаршкі або скрынкі і ставіцца ў хаце, або ў парніку. Да канца мая расада два разы перасаджваецца (пікіруецца), каб ляпей разьвіць каранёвую сыстэму. Перад тым, як высадзіць расаду, на градзе робяцца ямачкі (лункі) на адлегласьці 90 сантым. (1¼ арш.) адна ад другой. З кожнай ямачкі зямлі бярэцца столькі, колькі можна захапіць рыдлёўка за тры разы. У ямачку насыпаецца мешаніна перапрэлага гною, глебы і ½ шклянкі попелу. Замест попелу можна даць супэрфасфату, па 100 грам. пад кожны куст. Усё гэта добра перамешваецца і ў ямку садзіцца маладая рась-

лінка на 3 сантымэтры глыбей, чымся яна расла ў скрынцы. Пасаджаныя ў ямкі расьліны добра паліваюцца вадой. Ямкі прысыпаюцца зьверху зямлёй, каб не стварылася скарынка (корка). Больш паліваць ня трэба на працягу ўсяго лета, бо памідоры пускаюць глыбока карані і дастаюць адтуль сабе вільгаць. Паліваючы часта можна разьвіць і выгнаць вялікае бацьвіньне, якое затрымае разьвіцьцё і раньняе пасьпяваньне пладоў. Пры завязваньні пладоў можна паліць 1—2 разы вадкім угнаеньнем. Робіцца гэта наступным чынам: бяруць бочку, насыпаюць у яе на ¼ або 1/5 частку курынага гною і даліваюць вадой. Тыдзень-другі гэта вадкасьць павінна пастаяць, прычым яе час-ад-часу трэба памешваць палкай. Для паліўкі бяруць ня больш ¼ палівачкі гэтай вадкасьці, рэшту дабаўляюць вады і паліваюць памідоры па разьліку на 10 расьлін адну вядзёрную палівачку. Паліўку гэту трэба рабіць пасьля дажджу, або напярэдадні паліць вадой.

Пры зьяўленьні першага суквецьця трэба прыступіць да зьнішчэньня ўсіх бакавых паросткаў (пасынкаваньне). Калі гэта зроблена, неабходна расьліну прывязаць да кійка. На працягу лета падвязваць памідоры да кійка трэба два-тры разы. Калі плады на першай галінцы дасягнуць велічыні трохі болей курынага яйка, неабходна стварыць першую моцную абрэзку бацьвіньня: абрэзаць на кустох усе лісьці, пачынаючы ад зямлі і на 17 сантым. (¼ арш.) вышэй першага суквецьця. Гэта трэба зрабіць для лепшага і моцнага праграваньня сонцам грады і пладоў. На кусьце трэба пакінуць толькі 3—4 суквецьці, а рэшту абарваць. У выніку такога догляду я атрымаў у мінулым годзе вельмі рэдкія для Беларусі памідоры. Першыя чырвоныя памідоры зьявіліся на кустох 8 жніўня. Большасьць пладоў дасягала 400 грамаў вагі. Шаснаццаць пладоў былі па 600 грам кожны. Кустоў у мяне ў мінулым годзе было 100 штук. Сарты разводжу наступныя: эрліяна, красавіца лётарынгіі (прамысловы сорт—плады ня вельмі буйныя, але іх бывае многа), мікада (японскія—вельмі буйныя), пандэроза ліловая, плады вельмі буйныя.

Буйнейшыя за ўсіх давала плады пандэроза ліловая. Плады ў яе вельмі мясістыя, маюць мала насеньня; з надворнага боку плады вельмі прыгожыя і вельмі прыемнага салодкага смаку. Першыя чырвоныя, прыдатныя да ўжываньня плады 8 жніўня дала Пандэроза. Эрліана, Мікада і Красавіца Лётарынгіі далі гатовыя плады на кустах дзён на 6 пазьней Пандэрозы.

Калектыўным гародным гаспадаркам як гарадзкім, так і вясковым раю абавязкова завесьці гэты гатунак. Зразумела, што ў нас, на Беларусі, трэба будзе разводзіць у першую чаргу наступныя сарты, якія лічацца раньнімі і пасьпяваюць раней іншых:

1. „Першы збор“.
2. „Пераможнік поўначы“.
3. „Джон Бэр“.
4. „Прэкос дэ-Гал“.
5. „Бонскія палепшаныя“.
6. „Красавіца Лётарынгіі.
7. „Эрліана“.
8. „Мэчлес“.

Усе гэтыя восем гатункаў пасьпяваюць вельмі рана ў параўнаньні з іншымі і могуць з вялікім посьпехам разводзіцца ў нас на Беларусі. Насеньне я заўсёды выпісваю з Кіева (Садоўніцтва Акркамгаспа, быв. Мэйера) і з Масквы—„Сельхозснабжение“.

**С. Я.**

г. Бабруйск.

# ЧАРГОВЫЯ ВЯСНОВЫЯ ПРАЦЫ

## На барацьбу са шкоднікамі сельскай гаспадаркі

У справе барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі жанчына можа і павінна прымаць самы актыўны ўдзел, асабліва ў колектыўнай гаспадарцы, дзе яна аслабаняецца ад цэлага шэрагу абавязкаў па догляду за дзецьмі і па хатняй гаспадарцы.

Праца па барацьбе са шкоднікамі сельскае гаспадаркі пачынаецца з раньняй вясны і працягваецца да восені.

Першая праца з вясны праводзіцца ў садзе. Калі ўвосень ня былі зьняты з дрэў сухія лісьці і засохшыя пляды, іх неабходна зьняць раньняй вясной, як толькі магчыма прайсьці ў сад. Адначасова неабходна зрэзаць галінкі з адложанымі на іх яечкамі персьцянковага прадзільніка.

Дрэвы трэба ачысьціць ад старое кары спэцыяльнымі шчоткамі, скрабкамі ці тупым нажом і пабяліць вапенным малаком. Каб прыгатаваць вапеннае малако, бяруць 1.200—1.600 грам (3—4 фун.) нягашанай вапны на 12 літраў (1 вядро) вады. Вапна спачатку гасіцца невялікай колькасьцю вады, каб яна распалася ў парашок і потым уліваецца рэшта вады.

З наступленьнем цёплага надвор'я, як толькі стае сьнег, да распусканьня почак трэба правесьці апырскваньне жалезным купарвасам (зялёным каменем). Жалезнага купарвасу бяруць 1.200 грам на 12 літраў вады. Гэта апырскваньне вытвараецца супроць мядзяніцы і зімуючых стадый іншых шасьціножак.

Пасьля красаваньня дрэў, як толькі ападуць пялёсткі кветак, патрэбна вытвараць другое апырскваньне бардоскай жыжкай з парыскай зеленьню. Для прыгатаваньня бардоскай жыжкі бяруць 120 грам (30 залатн.) мядзянага купарвасу (сіняга каменю) і 120 грам нягашанай вапны. Мядзяны купарвас расчыняецца асобна. Вапна спачатку гасіцца як было паказана вышэй і потым вапенны раствор уліваецца ў раствор мядзянага купарвасу. Так як вапна часта бывае недобраякасная, неабходна спрабаваць раствор апусьціўшы канец нажа. Калі на нажы будзе налёт медзі, вапны трэба дадаць.

Парыскую зелень разьмешваюць з вадой асобна і ўліваюць у раствор. Яе бяруць 8 грам на 12 літраў бардоскай жыжкі.

Гэта апырскваньне праз 3 тыдні трэба паўтарыць.

Апырскваньне бардоскай жыжкай з парыскай зеленьню вытвараецца адначасова супроць грыбных хвароб і шкодных шасьціножак.

У вясеньнюю пасеўную кампанію перад пасевам трэба зерне пшаніцы, аўса, ячменю і проса пратруціць, каб ня было галаўні (сажы). Пратручваньне робіцца двумя спосабамі—мокрым і сухім. Сухім спосабам пратручваецца насеньне пшаніцы. Бярэцца для пратручваньня

парыскай зелені 1 грам на 1 кілёграм зерня ці 16 грам (4 зал.) на 16 кілёграм (1 пуд.) зерня. Перамешваньне зерня робіцца пры дапамозе спэцыяльных машын ці ў мяшках. Парыская зелень моцная атрута, пагэтаму пры працы з ёю трэба адзяваць маскі ці завязваць рот і нос хусткай.

Мокрае пратручваньне робіцца фармалінам перад пасевам за 2—3 дні. Гэтым спосабам можна пратручваць усе паказаныя культуры. Прадажны (40 проц.) фармалін разбаўляюць вадой. 1 частку фармаліну бяруць на 300 частак вады ці 1 літр фармаліну на 25 вёдзер вады. Зярно змачваецца ці шляхам апусканьня ў мяшку ці кошыку ў раствор, ці паліваньне раствора з лейкі з мелкім сітам ці праз венік, прычым зярно рассыпаецца невялічкай кучкай і пералапачваецца, каб яно раўнамерна змачылася. Пасьля гэтага зярно накрываюць бразэнтам ці мяшкамі змочанымі таксама растворам фармаліну і пакідаюць на 2 гадзіны, потым прасушваюць у цені. Добра, пасьля таго як зерне паляжыць дзьве гадзіны, прамыць яго ў вадзе, а потым прасушваць. Гэта гарантуе ад паніжэньня ўраджайнасьці, калі зерне па якім-небудзь прычынам ня можа быць высеяна зараз-жа па пратручваньні.

Першымі з вясны шкоднікамі на гародных культурах зьяўляюцца гародныя блошкі. Супроць іх ужываецца пасыпка расьлін тутунёвым пылам, попелам, вапнай. Ужываецца і апырскваньне парыскай зеленьню, джынсінам.

Пазьней зьяўляецца капусны чарвяк (вусень капуснай бялянкі), супроць якога ўжываецца апырскваньне парыскай зеленьню, джынсінам ці хлорыстым барыем і ручны збор. Парыскай зелені бяруць 10—12 грам. на 12 літраў (1 вядро) вады, прычым абавязкова дадаваць двайную колькасьць нягашанай вапны, г. зн. 20—24 грамы.

Джынсіну бяруць 10—20 грам. на 12 літраў (вядро) вады, хлорыстага барыя 400—600 грам. на вядро вады.

Тут паказаны самыя галоўныя працы. Больш падрабязна аб мерапрыемствах па барацьбе са шкоднікамі можна даведацца ў аграномаў і спэцыялістых па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Акрамя практычных мерапрыемстваў па барацьбе са шкоднікамі і для таго, каб лепш і своечасова правесьці гэтыя мерапрыемствы, жанчыны павінны прыняць самы актыўны ўдзел у нагляданьні за зьяўленьнем і пашырэньнем шкоднікаў.

Існуе ў БССР сетка добраахвотных карэспандэнтаў па ахове расьлін ад шкоднікаў пры Станцыі аховы расьлін Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясной Гаспадаркі імя Леніна. Асобы, якія жадаюць быць карэспандэнтамі, паведамляюць Станцыю па адрасу: Менск, Шырокая 28, якая дасылае інструкцыі і матар'ялы.

У мэтах добрай арганізацыі працы, неабходна, каб карэспандэнты былі ў кожным калгасе, кожным саўгасе і кожнай вёсцы, дзе яшчэ не арганізаваўся калгас.

Гэта праца не патрабуе фізычнай сілы, даступна кожнаму, а таму жанчына і не павінна стаяць у баку ад яе.

Усе на барацьбу са шкоднікамі сельскае гаспадаркі, а з гэтым за падвышэньне ўраджайнасьці і павялічэньне прадукцыі сельскае гаспадаркі.

**З. Сяргеева.**

---

# Падрыхтоўка насеннай бульбы

Пасеў бульбы ў БССР павялічваецца з кожным годам, займаючы ў некаторых калгасах больш ¼ усёй пасеўнай плошчы. Зварачаецца вялікая ўвага і на культуру бульбы. Бульбу сеюць на лепшых добра-ўгнаеных вучастках пасьля азімага кліну, або беспасрэдна па гнаі.

Але яшчэ недастаткова зварачваецца ўвага на якасьць насеннай бульбы. Часта сеюць напоўгнілую, мокрую бульбу, што спрыяе пашырэньню бульбянай гнілі (гніль—хвароба, якая паражае бульбоўнікі клубні), а гэта зьніжае ўраджай і пагаршае якасьць бульбы.

Якой-жа павінна быць насенная бульба? *Сухая, здаровая і сярэдняга разьмеру.*

Насенная бульба павінна на зіму ссыпацца ў капцы. З надыходам вясны трэба сачыць за тэмпэратурай у капцох, ці не награецца там бульба. У выпадках, калі цяплыня павялічваецца, трэба адчыніць прадуху, або раскрыць у некалькіх мясцох вяршыну капца, але так каб праз гэтыя прадухі не пападаў у капец дождж ці сьнег.

Калі ў капцы зьявіліся гнілыя бульбіны, трэба з надыходам цёплага надвор'я зараз-жа адкрыць капец, перабраць бульбу і зьвесьці яе ў памяшканьне. Бульбу ссыпаць трэба ў пласт таўшчынёю ў аршын, але ня больш. Неабходна сачыць, каб бульба, якая знаходзіцца ў склепе, не прарастала. Парасткі, якія зьяўляюцца на бульбе ў склепе без сьвятла, пры пагрузцы бульбы ў мяхі, ці скрынкі, абламваюцца, а гэта шкодна адбіваецца на ўраджаі.

Пажадана ўсю насенную бульбу за два-тры тыдні да пасеву перабраць і скласьці ў сьветлым памяшканьні пластом не таўсьцей ½ мэтра. Бульба за гэты час прасушыцца, пусьціць кароткія, у выглядзе зялёных пупышак, парасткі. Прасушаная бульба, па даных некаторых дасьледчых станцый, раней узыходзіць і павышае ўраджай на 10—20 проц.

Прарашчваньне бульбы раньніх гатункаў трэба рабіць у невялічкіх скрынках, паставіўшы іх у цёплым сьветым памяшканьні. Для пасадкі, скрыні з бульбай, неперагружаныя, перавозяцца на поле і асьцярожна, каб не паламаць парасткаў, выбіраюць з іх бульбу для пасадкі.

Пры пераборцы неабходна выкінуць ня толькі гнілыя, але і заражаныя гнільлю бульбіны, якія лёгка заўважваюцца пры аглядзе.

Насенная бульба па велічыні павінна быць ня менш курынага яйка (вагою 60—80 грам). Пры пасеве больш дробнай бульбы атрымліваецца памяншэньне ўраджаю. Пры недахопе бульбы сярэдняй велічыні можна карыстацца бульбаю большых разьмераў, якую можна разразаць на часткі, сочачы за тым, каб на ўсіх частках былі ў дастатковай колькасьці вочкі. Парэзаную бульбу трэба абсыпаць попелам, каб захаваць яе ад загніваньня. Можна таксама скарыстаць і дробную бульбу, але садзіць яе густа нельга, а ў залежнасьці ад велічыні, калі яна ўжо занадта малая, трэба садзіць у адно месца 2—3 бульбіны.

Перабіраючы бульбу трэба сачыць, каб бульба была аднаго гатунку, дамешкі-ж іншых гатункаў трэба выдаляць. Дамешка іншых гатункаў шкодзіць раньняй бульбе. Налічча дамешкі позьніх гатункаў не дазваляе выкарыстаць плошчу, пасьля ўборкі раньняй бульбы, пад якую-небудзь іншую культуру.

Пры выбары гатункаў бульбы калгасу, саўгасу, камуне трэба дагаварыцца з аграномам. Распаўсюджанымі на Беларусі гатункамі лічацца:

з позьніх—„Сілезія“ і „Вольтман“, з раньніх—„Раньні ружовы“ (скарасьпелка), а для паўночнай часткі Беларусі—„Эпікур“.

Калгасам у бягучым годзе будзе дадзена гатунковае насеньне для засеву 5.000 *га.* Калгасам трэба сваячасова дагаварыцца з Райпаляводсаюам, адкуль атрымаць гэту бульбу.

У калгасах можна шляхам адбору паступова перайсьці на чыстагатунковую бульбу. Гатункі бульбы лёгка пазнаюцца па афарбоўцы і форме клубня. Аграном **Пастрон**.

---

## Ачысьцім ад павітухі канюшыну

Адным з найбольш шкадлівых пустазельляў зьяўляецца павітуха дзяцелінная, якая можа ў адно лета зьнішчыць цэлае поле канюшыны.

Звычайна павітуха сьцелецца па зямлі, пераплятаючы, як павуціньнем, сваімі белавата-ружаватамі ніткамі маладыя расьлінкі, за апіўшы круг, спачатку невялічкі. Далей яна разрастаецца таксама кругам і абвівае кожнае сьцябло канюшыны, а часам і некалькі адразу і моцна. Абвіўшы адно, пушчае ніткі да другога і г. д. Пазьней на ёй зьяўляюцца кветкі, падобныя да дробных ячных ці грачаных круп, зьлепленых па некалькі разам. Кветкі гэтыя трымаюцца на тонкіх, як сьцябло, нітках. Лісьця зусім няма, а замест каранёў яна мае маленькія прысосачкі, якімі прымацоўваецца да расьліны і выцягвае з яе сок.

Павітухі ёсьць некалькі гатункаў, але кожны з гэтых гатункаў мае сваю расьліну, на якой жыве. У нас часта сустракаецца павітуха эўропэйская (Cuscuta europaea), якая абкручвае крапіву, хмель і іншыя расьліны каля рэчак і балот. Павітуха дзяцелінная расьце выключна на канюшыне.

Улетку 1928 году я знайшла павітуху на хутары Казіміраўка (17 вёрст ад Менску). Ходзячы па палёх я здалёк заўважыла на канюшыне (атаве) жаўтавата-ружовыя круглыя плешыны і падышоўшы пераканалася, што гэта была павітуха. На невялікім шнуры было 9 плешын. У сярэдзіне плех ужо падсох, канюшына выпрэла, а навакол круціліся сьвежыя ніткі. Праз тыдзень гэтыя плешыны разрасьліся ўдвое і некаторыя пазьліваліся ў адно вялікае кола. Такім чынам канюшынае поле за адзін тыдзень страціла 18 кв. арш. засеянай плошчы. Да восені яна разраслася яшчэ больш, засеялася і такім чынам увесь засеў канюшыны можна лічыць загінуўшым.

Нашы сяляне не зварачваюць увагі на павітуху і шкоду, якую яна прыносіць, і пакідаюць на насеньне вучасткі на канюшыным полі, дзе завялася павітуха. Між іншым прысутнасьць насеньня павітухі ў канюшынным насеньні нават у 0,01 проценту, г. зн. калі на 100 зернят канюшыны прыпадае адно зерня павітухі, то яна дае магчымасьць забракаваць увесь тавар, г. зн. усё насеньне канюшыны.

Для барацьбы з гэтай нягоднай расьлінай патрэбна наступнае:

1) Засяваць канюшыну толькі чыстым насеньнем.

2) Каб зьнішчыць насеньне павітухі, трэ‘ плешыны, якія зрабіліся на канюшыным полі ад павітухі, выпаліць саломай, або хмызьняком.

3) Пакідаць на насеньне канюшыну толькі на такім полі, дзе няма ніводнага каліва павітухі.

4) На полі, дзе была павітуха, няможна сеяць канюшыны 5 гадоў, бо насеньне павітухі можа ўсходзіць на працягу пяці год. **Л. Б.**

---



# КАЛГАСНЫЯ ЛІСТЫ

Новая кузьня калгасу „Чырвоны Араты“.

## Чырвоны Араты

*(Капаткевіцкі раён, Мазырскае акругі)*

Калгас „Чырвоны Араты“ арганізаваны ўвесну 1929 г. Спачатку праца ішла памаленьку ўперад. Але ўздым працы пачаўся ў дзень „Ураджаю і Калектывізацыі“, калі ў калгас уступіла шэраг новых сяброў. Неўзабаве ў калгас увайшла і рэшта бядняцка-серадняцкага сялянства в. Колак. Да 25-га студзеня г. г. стала ў ім болей чымся 200 гаспадарак. Праўда, шмат прышлося папрацаваць партыйнай ячэйцы, але ў выніку створана магутная гаспадарка. Ужо першыя крокі працы гэтае гаспадаркі паказваюць, што аб'яднаньне дасьць шмат карысьці



Вызначаную дзялянку лесу вывезьлі пасьля пастановы за 2 дні. Калгас „Чырвоны Араты“.

сябром калгасу. Калі закончылася суцэльная калектывізацыя вёскі, дык адразу наладзілася і агульная праца. На першым-жа сходзе вырашылі абагуліць насеньне і пабудаваць кузьню. Кузьню зрабілі на чатыры горны, зьвязьлі ў яе прылады вясковых кавалёў. Кавалі зараз-жа пачалі працу па рамонту плугоў, барон і інш. с.-г. інвэнтару.

Абагуленае насеньне ачысьцілі да 25/I-30 г. З жывёлы абагулены маладняк (жарабяты і цялята) і коні. Каровы, з прычыны хутарскай сыстэмы, пакуль што заставілі ў карыстаньні кожнага калгасніка. Але беднякам, у каго ня было зусім каровы, пастанавілі даць па 1 дойнай

карове, каб у кожнага было малако. Гэтак каровы прабудуць толькі да вясны, а вясною яны будуць пастаўлены ўсе ў агульны хлеў. Зроблена таксама абагульваньне пчол. На весну пчолы з калод будуць перагнаны ў рамовыя вульлі.



Каапэрацыя вескі Колак, Мазырскай акр., якая выканала заданьне па збожжу на 200%.

Па атрыманьні намёткі на вывазку прызначанае колькасьці драўніны па лесанарыхтоўцы, калгасьнікі зараз-жа вылучылі 50 проц. цягавае сілы і накіравалі ўсіх прызначаных на другі-ж дзень.

Праца калгасьнікаў з першых дзён разьмеркавана па паасобных галінах. Па кожнай працы выбраны загадчык, які кіруе ёю і адказвае перад праўленьнем калгасу за яе выкананьне.



Грошы, якія знойдзены ў скрынках у час аддачы царквы веруючымі пад клюб. Грошы зданы ў задатак на трактар для калгасу.

Акрамя гэтага, калгас пастанавіў пачаць кармленьне сьвіней для ўбоя (сто кабаноў).

Адзін з недахопаў у працы калгасу, гэта адсутнасьць агранамічнага кіраўніцтва, якога ня было з кастрычніка месяца па люты. Гэтым ста-

новішчам надта нездаволены калгасьнікі, бо ёсьць некаторыя працы, дзе неабходна каб быў аграном, а яго няма. Трэба Акркалгассаюзу паклапаціцца аб гэтым і даць указаньне Райкалгассаюзу, каб было наладжана агранамічнае кіраўніцтва ў калгасах.

**Л. Ф. Міраковіч.**

---

## Яўрэйская арцель „Іскра“

*(Шклоўскага раёну, Магілеўскае акругі)*

Яўрэйская нацыянальная арцель „Іскра“ арганізавана ў 1925 г. з быўшых местачковых гандляроў і часткі саматужнікаў. Трэба адзначыць, што спачатку слабае кіраўніцтва арганізацыі давяло арцель да поўнага распаду. Такім чынам у 1926 годзе прышлося яе зноў арганізаваць, дадаўшы туды бядняцкія гаспадаркі. Сацыяльны склад значна палепшыўся, сюды ўвайшлі дробныя саматужнікі і частка дробных гандляроў. Набралася ўсяго 8 сямей, але пад умелым кіраўніцтвам старшыні арцелі, партыйца Сосіна, апошняя хутка пачала расьці. За



Малацьба трактарам у арцэлі „Іскра“.

4 гады напружанае працы членаў арцелі і належнага кіраўніцтва з боку РК КП(б) можна бачыць належныя вынікі. Арцель стала паказальнай на Шклоўшчыне. На сёнешні дзень арцель аб'яднае 27 сямей. Уклон арцелі жывёлагадоўчы. Маецца 124 галавы буйнае жывёлы розных парод, 30 галоў маладняка і 50 цялят сёлятак, якія закантрактаваны Райкалгассаюзам. Коняй ёсьць 15, з іх адзін жарабец рысак каштоўнасьцю ў 2.000 руб.

Арцель мае ўсе складаныя с.-г. машыны: жняярку, снапавязалку, бульбакапалку, касілку, малатарню „камбайн“, трактар і розныя дробныя прылады. Гэтымі машынамі і коньмі тую плошчу зямлі, якая ёсьць (222 *га* пахаці і 41 *га* сенажаці), арцель апрацоўвае, і нават, дапамагае

іншым камунам. Ураджайнасьць за гэтыя гады павысілася ў 2 разы. Калі ў 1926 годзе гектар даваў 6,5 цэнтнэра, дык у 1929 г.—13—15 цэнтнэраў.

Арцель у гэтым годзе абмяняла акаляючаму насельніцтву 30 тон гатункавага насеньня; акрамя гэтага, здала ў каапэрацыю каля 16,5 тон. Параўнаўшы думку сялянства зараз з тэй, якая была пры арганізацыі, атрымліваецца вялікая розьніца. Раней насельніцтва так і гаварыла: „дзе ім яўрэям займацца земляробствам, іх справа боты шыць, або гандляваць. Ужо адны паспыталі здабычы гэтага хлеба дык неўдалося, разьбегліся сябры арцелі, так і з гэтымі будзе“. Але прайшоў год, другі, арцель мацнее і нават стала прыкладнай у раёне. Гаспадарка арцелі зараз ацэньваецца ў 150.000 р., а крэдыту маецца ўсяго 13 т., які арцель можа выплаціць у 2 гады. Сябры акаляючых калгасаў ходзяць вучыцца ў арцель, каб вопыт працы арцелі перавесьці ў свой калгас.



Жарабец рысак арцелі „Іскра“.

*Унутраны распарадак.* Кожны член арцелі працуе па спэцыяльнасьці. Хто даглядае кароў і наогул жывёлу, хто на полі і каля машын. Зарплата выплачваецца згодна спэцыяльнасьці і адказнасьці. Устаноўлены 4 катэгорыі: I кат. 90 руб. у м-ц, II кат.—75 руб., III—68 р. 50 к., IV—58 р. 50 к. Сюды ўваходзяць старыя.

Кожны член арцелі бярэ ўсе неабходныя прадукты на сваю сям'ю па цьвёрдай цане, прыкладам, пуд мукі каштуе 1 р. 40 к., конаўка малака—5 кап. і г. д. У канцы месяца выплачваецца розьніца, або пераносіцца на другі месяц. Калі што-небудзь патрэбна купіць, можа кожны ўзяць адпаведную суму грошай, а пасьля выплачваць.

*Культпраца.* Усе дзеці арцелі вучацца за агульныя сродкі. Летам была арганізавана пляцоўка, а зараз адчынены гадавыя яслі. Акрамя гэтага, для дарослых ёсьць гурток малапісьменных, дзе мужчыны і жанчыны падымаюць свой культурны ўзровень. Вясною будзе закончана агульная сталоўка, якая дасьць магчымасьць яшчэ больш жанчынам павышаць культурны ўзровень. Зараз адчуваецца недахоп у кватэрах, але іх таксама мяркуецца будаваць.

Што адчувалася нездаровага ў арцелі? Гэта тая палітыка абмежаваньня яе ад камун беларускіх. Патрэбна прывіваць кожнаму сябру думку інтэрнацыянальную, тым больш, што будуць калгасы інтэрнацыянальныя. Сябры арцелі „Іскра“ дапамагалі арганізаваць і другія камуны ў Шклоўскім раёне.

**Г. Шумілаў**

# Адзін з лепшых

Калгас „Новы Шлях“ Жываглодаўскага с/с., Чырв.-Слабодзкага р-ну зарганізаваўся роўна год таму назад. У сучасны момант ён мае каля 1.000 гектараў зямлі, добры інвэнтар, працоўную і дамовую жывёлу. На 15-е студзеня маецца 174 едакі, у большасьці батракі і бедната.

Сярод калгасьнікаў налічвалася 37 чалавек дарослых няпісьменных і 29 дзяцей школьнага ўзросту. Увосень мінулага году ў калгасе адчынена школа, лікпункт і чырвоны куток. Па-баявому, па-рэвалюцыйнаму калгасьнікі рашылі вясьці барацьбу з няпісьменнасьцю. У калгасе адсутнічала памяшканьне пад школу, якая часова зьмешчана ў 2 кілём. ад калгасу ў саўгасе Рачкавічы. Дзяцей школьнікаў калгасаўцы штодзенна падвозяць у школу. Па пастанове РВК да будучага навучальнага году будзе пабудавана ў калгасе плянавая школа. Лікпункт знаходзіцца ў сталоўцы саўгасу. Да апошняга часу ня было ніводнага прагулу бяз уважлівых прычын. Саўгас узяў на сябе работу па атапленьню і асьвятленьню лікпункту. Райпалітпрасьвет лікпункт забясьпечвае падручнікамі і пісьмовымі прыладамі, адпусьціў лямпу „молнія“. Саўгасаўцы зрабілі сталы, скамейкі, вешалку і клясную дошку.

Няпісьменныя ўжо прайшлі 46 старонак па лемантару „Наша сіла—саветы“, ужо навучыліся пісаць літары і цэлыя словы. Арганізуюцца гутаркі доктара і агранома.

Над калгасам узяў шэфства саюз Працасьветы. Чырвоны куток забясьпечваецца рознай літаратурай і газэтамі. На апошняй настаўніцкай канфэрэнцыі пастаноўлена купіць калгасу трактар за адлічэньне ў працягу 20 месяцаў па 2 проц. ад пэнсіі. Калгасаўцы набываюць радыё, якое ўстанаўліваюць у чырвоным кутку.

Да 15-га траўня няпісьменнасьць сярод калгасьнікаў будзе цалкам ліквідавана. Калгасьнікі зразумелі, што няпісьменнаму трудна працаваць і парашылі гэтую перашкоду—няпісьменнасьць—ліквідаваць. Вопыт калгасу „Новы Шлях“ павінен паслужыць прыкладам для рэшты калгасаў Чырвона-Слабодчыны.

І. П.

М-ка Чырв. Слабада, Бабруйскае акругі.

---

# Калектывізуем раён

*(Рагачэўскі раён, м. Ціхінічы)*

З 6 па 20 студзеня па Рагачоўшчыне праводзіўся „двухтыднёвік калектывізацыі“ тых вёсак і сельсаветаў, якія яшчэ да гэтага часу не знаходзяцца ў сацыялістычным сэктары. Для правядзеньня гэтай працы ў сельсаветы былі накіраваны брыгады з рабочых, чырвонаармейцаў, служачых, студэнтаў і г. д., усяго выехала 200 працаўнікоў. Усе брыгады атрымалі інструкцыі ў бліжэйшым кусьце калгасаў і падтрымлівалі з апошнім штодзенную сувязь. Да гэта двухтыднёвіка такія сельсаветы, як В.-Крушынаўскі, Азяранскі, Ціхінскі і інш. ня мелі ніводнага калгасу, але дзякуючы ўпартай працы брыгад на вёсцы цяпер ўва ўсіх буйных вёсках арганізаваны калгасы, абраны праўленьні, якія прыступілі да ацэнкі і абагульваньня маемасьці. Усяго па Ціхінскаму куставому аб'яднаньню за два тыдні—арганізавана да 15 калгасаў, прычым у некаторыя калгасы ўвайшлі ўсе гаспадаркі (в. Сланішча) акрамя кулацкіх.

У час правядзеньня працы кулаччо вяло агітацыю супроць калгаснага руху; нанялі жабрачку, якая хадзіла па вёсках Асаўніцкага сельсавету і казала, што яе выгналі з калгасу, але калі брыгада зацікавілася гэтай „жабрачкай з калгасу“, дык аказалася, што жанчына жыхарка суседняй вёскі і падкуплена кулакамі.

На зрыў калектывізацыі была мабілізавана і рэлігія. Так, у в. Барсукі частка насельніцтва „стараверы“ заявілі, што ім нельга ўступаць у калгас, бо іхняя вера гэтага не дазваляе. На хутары „Валокі“ была кулакамі прыслана на сход калгасьнікаў жанчына член В.-Крушынскага с-с. Зайцава Натальля, якая адкрыта агітавала супроць арганізацыі калгасаў, у выніку чаго з калгасу выпісалася некалькі чалавек. Акрамя агітацыі, кулачч тэрарызавала беднякоў уступіўшых у калгас. У вёсцы Асаўнік пляменьніка, які запісаўся ў калгас, зьбілі сваякі, а ў вёсцы Фалевічы сьвіньні бедняка-калгасьніка Палякова Рыгора перабілі ногі. Выпадкаў тэрору было шмат, і адміністрацыйныя ўстановы ня вельмі чутка адносіліся да гэтага, што шкодзіла правядзеньню суцэльнай калектывізацыі. Усё-ж ткі, ня гледзячы на ўсе выбрыкі кулакоў, арганізавана 15 калгасаў, якія будуць грунтам для суцэльнай калектывізацыі ў бліжэйшы месяц. Новаарганізаваныя калгасы ўзяліся за падрыхтоўку да веснавога севу, праводзіцца вучот і ачыстка насеньня калгасьнікаў, арганізавана пры куставым аб‘яднаньні кузьнечная майстэрня для рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару. Кожны калгас з дапамогай кустывога савету складае свой вытворчы плян пасеўнай кампаніі. Адчуваецца недахоп у арганізатарах-калгасьніках, аграномах і каморніках; апошніх мяркуецца скарыстаць у зімовы час для працы з такім разьлікам, каб да 15 красавіка межы калгасаўскіх палёў былі вызначаны.

**Я. М. Савіцкі**

# Суцэльная калектывізацыя Ваевіцкага с.-с.

*(Клічаўскі р., Бабруйскае акругі)*

Арганізацыя калгасу „Уперад“, Клічаўскага р., у які ўвайшоў цалкам пасёлак Палосы ў ліку 16 гаспадарак, прымусіў ваколічнае насельніцтва загаварыць аб калгасным руху.

Да пачатку веснавой сяўбы неабходна цалкам калектывізаваць Ваевіцкі с.-с. Так стаіць пытаньне перад Клічаўскім РВК, Райкомам КП(б)Б, перад самым сельсаветам, камсамольскай ячэйкай і наогул актывам вёскі.

Асноўная і большая частка беднаты, сумесна з лепшым серадняцтвам, цалкам аддаюцца справе калектывізацыі.

К першаму студзеня 1930 г. на тэрыторыі Ваевіцкага с.-с. арганізавана 4 каляктывы: „Уперад“, „Бальшавік“, „Камунар“ і „Колас“, пад якімі знаходзіцца 50 проц. усяе зямельнае плошчы с.-с.

Самы актыўны ўдзел у калектывізацыі прымае Бёрдаўская ячэйка ЛКСМБ, яна вядзе належную агітацыйную працу з беднатой, сама першая цалкам увайшла ў калгас. Восем камсамольцаў запісаліся са сваімі сем‘ямі. Па прыкладу ячэйкі ідзе і рэшта вясковай моладзі, яна першая пішацца ў каляктывы і ўцягвае сваіх бацькоў.

Ня гледзячы на ўсё гэта, Сьвіслач—Клічаскі вучастак Лесбелу не прыстасаваў свае працы да калектывізацыі. Яны прымаюць на працу

такіх людзей, якія стараюцца сарваць гэту справу. Такі працаўнік, як дзесятнік Юркавец Самусь, селянін заможнік, агітуе сялянства так: „Вы не глядзіце, што я на сходзе буду за каляктыў, бо я служачы і мяне могуць зьняць з працы, а пісацца ў калгас я ня буду“.

Другі дзесятнік, Маеўскі Якаў, моцны серадняк, у яго адбываюцца падпольныя сходкі супроць калектывізацыі. На працу папалі па рэкамэндацыі ст. дзесятніка Шэйны Хаіма, за тое, што яны даюць яму добрыя пачастункі.

Пад кіраўніцтвам гэтай тройкі склалася з больш заможных антыкалгасьнікаў арцель, нідзе не аформленая, якая і выгнала з дзялянкі беднякоў калгасьнікаў. Шэйн з Юркаўцом „рэгулююць“ працу так, што калгасьнікі ідуць дамоў, а „арцель“ застаецца працаваць.

Пры чыстцы савецкага апарату камісія прапанавала ўпаўнаважанаму прафсаюзу зьняць з працы Юркаўца, але-ж ён і да гэтага часу працуе, кажучы, „што яго і сам дырэктар ня зьніме“.

Аб гэтым факце Бёрдаўская насьценгазэта „Сейбіт праўды“ паведамляла РВК і Рабачком, якія да гэтага часу ня прынялі ніякіх захадаў. Калі гэтыя шкоднікі будуць працаваць і далей у савецкіх установах, то бязумоўна будзе шмат цяжкасьцяй у далейшай працы па калектывізацыі.

Ня гледзячы на кулацкую хлусьню, арганізаваныя калгасы маюць ужо дасягненьні ў працы. Вось, напрыклад, калгас „Уперад“, які арганізаваны 19 верасьня 1929 г., калектыўна пасеяў каля 300 пуд. жыта, узараў на зяб, стварыў калектыўны насенны фонд, закупіў 600 дрэў для саду, набыў 3 буйныя каровы, 1 быка і кныра.

У бліжэйшым часе пастаноўлена абагуліць усю маемасьць.

У веснавую сяўбу закіпіць калектыўная праца на сацыялістычны лад.

**М. Вішнёвы**

# Прыкладны статут сельска-гаспадар. арцелі

## Канчатковы тэкст, прыняты калгасцэнтрам, ухвалены Народным Камісарыятам Земляробства СССР і зацьверджаны СНК СССР і Прэзыдыумам ЦВК СССР

### 1. Мэты і задачы

Батракі, беднакі і серадdespite . . . . . . . . . раёну . . . . акругі . . . . . . . . добраахвотна яднаюцца ў сельска-гаспадарчую арцель, каб агульнымі сродкамі вытворчасьці і агульнай арганізаванай працай пабудаваць буйную калектыўную гаспадарку і, такім чынам, забясьпечыць сапраўдную і поўную перамогу над кулаком, над усімі эксплёататарамі і ворагамі працоўных, сапраўдную і поўную перамогу над галечай і цемрай, над адсталасьцю дробнай індывідуальнай гаспадаркі і стварыць высокую прадукцыйнасьць працы і таварнасьць калектыўнае гаспадаркі.

### 2. Аб зямлі

Усе межы, што падзяляюць зямельныя надзелы членаў арцелі, зьнішчаюцца і ўсе палявыя надзелы зьліваюцца ў адзіны зямельны масыў, які знаходзіцца ў калектыўным карыстаньні арцелі. Пры абагуленьні поўнасьцю ўсіх зямельных угодзьдзяў пакідаюцца ў індывідуальным карыстаньні прысядзібныя землі (агароды, сады і г. д.), прычым там, дзе гэта неабходна, паводле пастановы праўленьня арцелі і зацьвярджэньня агульным сходам, зьмяняюцца разьмеры сядзібных земляў.

Адзіны зямельны масыў арцелі ні ў якім выпадку не павінен памяншацца. Надзяленьне выбыўшых членаў арцелі зямлёй за кошт зямельнай плошчы арцелі забараняецца. Выбываючыя з арцелі могуць атрымліваць зямлю толькі з вольных зямель дзяржфонду.

### 3. Абагульненьне інвэнтару і жывёлы

Абагульваюцца: уся рабочая жывёла, с.-г. інвэнтар, уся таварна-прадукцыйная жывёла, усе насенныя запасы, кармавыя сродкі ў разьмерах, неабходных для ўтрыманьня абагуленай скаціны, гаспадарчыя будынкі, патрэбныя для вядзеньня арцельнай гаспадаркі, і ўсе прадпрыемствы па перааапрацоўцы. Жылыя будынкі членаў арцелі не абагульваюцца. Пры абагульваньні сельска-гаспадарчага інвэнтару пакідаецца ў асаблівым карыстаньні членаў арцелі дробны сельска-гаспадарчы інвэнтар, патрэбны для работ на прысядзібных землях. З абагуленай рабочай жывёлы праўленьне арцелі, у выпадку патрэбы, выдзяляе мінімальна неабходную колькасьць коняй для абслугоўваньня асабістых патрэб членаў арцелі. У аднакароўных гаспадарках малочная жывёла не абагульваецца. У шматкароўных гаспадарках пакідаецца ў асабістым карыстаньні адна карова, рэшта абагульваецца. Прадуктары бязумоўна абагульваюцца. З абагуленай малочнай жывёлы ствараецца таварная арцельная гаспадарка. Абагуленьне дробнай жывёлы, г. зн. сьвіней і авец, праводзіцца ў раёнах разьвітай прамысловай жывёлагадоўлі па дробнай жывёле з пакіданьнем у членаў арцелі некаторае колькасьці дробнай жывёлы ў разьмерах, якія ўстанаўляюцца арцельлю. У раёнах непрамысловай дробнай жывёлагадоўлі сьвіньні і авечкі не абугульваюцца. Хатнія птушкі не абагульваюцца. Побач з пакіданьнем у індывідуальным уладаньні дробнай жывёлы і птушкі, калгасы арганізуюць прамысловую аграмаджаную дробную жывёлагадоўлю і птушніцтва. У выглядзе страхоўкі ад неўраджаю і бяскорміцы, пры арцелі ствараюцца недатыкальныя насенныя і кармавыя фонды.

### 4. Дзейнасьць арцелі

Праўленьне і ўсе члены арцелі абавязваюцца: а) пашырыць пасеўную плошчу шляхам выкарыстаньня зямлі, якая знаходзіцца ў распараджэньні арцелі, паляпшэньня і апрацоўкі зямель і правядзеньня ўнутрыгаспадарчага земляўпарадкаваньня; б) поўнасьцю выкарыстаць на грамадзкіх пачатках усю наяўную цягавую сілу, увесь інвэнтар, усе трактары, усе машыны, насеньне і інш. сродкі вытворчасьці; купляць на свае і пазычаныя сродкі трактары і другія сродкі вытворчасьці з мэтаю паступовага пераходу на мэханізаваную гаспадарку; в) паставіць правільнае выкарыстаньне і догляд за абагуленым жывым і мёртвым інвэнтаром, дабіваючыся таго, каб у калектыўнай гаспадарцы жывёла і інвэнтар былі ў лепшым стане, чым у індывідуальнай гаспадарцы; г) паляпшаць ворныя і лугавыя землі і праводзіць агра-культурныя мерапрыемствы, патрэбныя для павышэньня ўраджайнасьці; д) праводзіць зоатэхнічныя і вэтэрынарныя мерапрыемствы, патрэбныя для хуткага ўзьняцьця і паляпшэньня таварнай жывёлагадоўлі і птушніцтва; е) разьвіваць усе іншыя галіны сельска-гаспадарчай вытворчасьці, дастасоўна да прыродных умоў месца, і саматужныя промыслы, адпаведна з умовамі раёну; ж) арганізаваць будаўніцтва на грамадзкіх пачатках гаспадарчых і грамадзкіх будынкаў і дапаможных устаноў; з) павышаць культурна-палітычны ўзровень членаў арцелі; і) усімі даступнымі мерамі паляпшаць бытавыя ўмовы членаў арцелі, у асабліваасьці жанчын і дзяцей.

## 5. Аб членстве

Прыём у члены арцелі праводзіцца праўленьнем, якое ўносіць сьпіс новапрынятых членаў на зацьвярджэньне бліжэйшага агульнага сходу. Асабістая яўка для рабочых, якія пастаянна працуюць па-за арцельлю, не абавязкова.

У члены арцелі могуць уступаць усе працоўныя, якія дасягнулі 15-гадовага ўзросту. У арцель ня прымаюцца кулакі і ўсе асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў. Выключэньні з гэтага правіла дапускаюцца для членаў тых сем'яў, у складзе якіх ёсьць адданыя справе савецкай улады чырвоныя партызаны, чырвонаармейцы і чырвонафлётцы, радавыя і камандны склад, сельскія настаўнікі і настаўніцы пры ўмове іх паручыцельства за членаў сваёй сям'і. Гаспадаркі, якія перад уступленьнем у калгас забіваюць або прадаюць сваю жывёлу, ліквідуюць інвэнтар і злонамерана разбазарваюць насеньне, у арцель ня прымаюцца.

## 6. Сродкі арцелі

Кожны ўступаючы ў арцель павінен унесьці грашовы ўступны ўзнос у разьмеры ад 2 да 10 проц. кошту сваёй маемасьці як абагуленай, так і неабагуленай, якая прыпадае на яго долю ў дварэ, за выключэньнем рэчаў хатняга ўжытку і асабістага карыстаньня. У выпадку, калі асноўнай крыніцай даходу ўступаючага ў арцель зьяўляецца заработная плата (аграном, настаўнікі, зямляўпарадчык, служачыя ўстаноў і арганізацый, разьмешчаных у раёне арцелі і г. д.), разьмер узносу вызначаецца кожны раз праўленьнем, але ня можа перавышаць 10 проц. гадавога акладу. Для батракоў устанаўляецца ўступны ўзнос ня больш 5 руб. Рабочыя, пастаянна занятыя на рабоце па-за калгасам, звыш прадугледжанага статутам адлічэньня ва ўступны ўзнос ад 2 да 10 проц. кошту маемасьці, адначасова ўносяць 3 проц. ад гадавое зарплаты.

ЗАЎВАГА. Звыш уступнага ўзносу арцель не патрабуе ад рабочага члена арцелі якіх-небудзь дадатковых адлічэньняў з заработнай платы. Растэрміноўка выплаты ўступнага ўзносу можа быць дана праўленьнем толькі ў парадку і на тэрмін, які ўстанаўляецца Калгассаюзам. Уступныя ўзносы залічваюцца ў непадзельны фонд арцелі.

З кошту абагуленай маемасьці членаў арцелі (рабочай і прадукцыйнай жывёлы, інвэнтару, гаспадарчых будынкаў і г. д.) ад $^1/_4$ да $^1/_2$ залічваецца ў непадзельны фонд арцелі, прычым большы процант залічэньня ў непадзельны капітал дастасоўваецца да больш заможных гаспадарак. Рэшта маемасьці залічваецца ў паявы ўзнос члена арцелі.

З членам арцелі, што выбывае з яе складу, праўленьне праводзіць разьлік і варочае яму паявы ўзнос, прычым выбыўшаму з арцелі можа быць даны надзел толькі за межамі зьмельнай плошчы арцелі. Разьлік робіцца, як правіла, пасьля сканчэньня гаспадарчага году.

З даходаў арцелі, якія атрымліваюцца па сканчэньні гаспадарчага году, пакрываюцца гаспадарчыя і зьвязаныя з гаспадаркай выдаткі, а таксама і выдаткі на ўтрыманьне непрацаздольных, робіцца адлічэньні ў непадзельны і грамадзкі фонды (ад 10 да 30 проц. — у непадзельны фонд, ад 5 да 15 проц.—у другія грамадзкія фонды) і разьлікі па аплаце працы.

## 7. Арганізацыя і аплата працы

Усе работы ў гаспадарцы арцелі робяцца асабістай працай яе членаў згодна правіла ўнутранога распарадку, прынятага агульным сходам. Дапускаецца прыцягненьне на с.-г. работы па найме толькі асоб, якія ўладаюць спэцыяльнымі ведамі і падрыхтоўкай (аграномы, інжынэры, тэхнікі і г. д.). Наём часовых рабочых дапускаецца толькі ў выключных выпадках, калі тэрміновыя работы ня могуць быць выкананы ў патрэбны тэрмін наяўнымі сіламі членаў арцелі пры поўнай іх нагрузцы, а таксама для будаўнічых работ.

Работы разьмяркоўвае ў арцелі праўленьне згодна правіл унутранога распарадку. Ніхто з членаў арцелі ня можа адмовіцца ад даручанай яму работы.

Для правільнай арганізацыі работы членаў арцелі ўстанаўляюцца нормы выпрацоўкі і расцэнкі па асобных відах работ, робіцца ўлік колькасьці і якасьці работ, ужываюцца зьдзельная аплата працы і ўрочная сыстэма.

Аплата працы членаў арцелі праводзіцца ў наступным парадку: у працягу гаспадарчага году на харчовыя і іншыя патрэбнасьці членаў арцелі выдаецца авансам (натурай, або грашыма) ня больш 50 проц. сумы, якая належыць за работу. У канцы гаспадарчага году робіцца канчатковы разьлік па аплаце працы.

ЗАЎВАГА. З сум, зробленых членамі арцелі на адхожых промыслах, робіцца адлічэньне ў грамадзкія фонды арцеляй у разьмерах ад 3-х, але ня больш 10 проц. заработку, прычым гэтае адлічэньне ў гэтых межах устанаўляецца арцельлю або калгасным аб'яднаньнем.

Арцель аказвае матар'яльную дапамогу сваім непрацаздольным членам, а таксама часова страціўшым працаздольнасьць. Умовы і разьмер гэтай дапамогі вызначаюцца праўленьнем і пацьвярджаюцца агульным сходам у адпаведнасьці з гаспадарчымі магчымасьцямі арцелі, але ня звыш сярэдняга заработку.

## 8. Меры ўзьдзейнічаньня

Усе члены арцелі абавязваюцца падпарадкавацца патрабаваньням статуту, пастановам агульнага сходу і праўленьня, захоўваць правілы ўнутранога распарадку, акуратна выконваць ускладзеныя на іх праўленьнем работы і грамадзкія абавязкі. Безгаспадар-

чыя і нядбайныя адносіны да абагуленага інвэнтару і скаціны разглядаюцца арцельлю, як здрада справе калектывізацыі, як практычная дапамога ворагу — кулаку. За такія безгаспадарчыя і нядбайныя адносіны да абагуленае маемасьці, за нявыхад бяз уважлівых прычын на работу і за іншыя парушэньні дысцыпліны на вінаватых праўленьне накладвае спагнаньні згодна правіл унутранога распарадку (напрыклад, вымова, папярэджаньне, часовае адхіленьне ад работы, штраф і г. д.). У адносінах непапраўных праўленьне арцелі ставіць перад агульным сходам пытаньне аб выключэньні са складу арцелі.

### 9. Кіраўніцтва справамі арцелі

Справамі арцелі кіруюць агульны сход членаў арцелі і праўленьне. Калі скліканьне агульнага сходу, з прычыны шматлікасьці членаў арцелі, або раскіданасьці паселішчаў, сустракае затрудненьні, агульны сход замяняецца сходам упоўнаважаных. Члены сходу ўпоўнаважаных выбіраюцца сходам членаў арцелі па асобных паселішчах калгасу.

Агульны сход (або сход ўпоўнаважаных) зьяўляецца вышэйшым органам кіраўніцтва арцелі, выпрашае важнейшыя пытаньні дзейнасьці арцелі, выбірае праўленьне і рэвізійную камісію і зацьвярджае інструкцыю па іх рабоце. Агульны сход (або сход упоўнаважаных) правамоцны пры наяўнасьці ня менш паловы ўсяго ліку членаў. Пастановы агульнага сходу (або сходу ўпоўнаважаных) прымаюцца большасьцю галасоў адкрытым галасаваньнем.

Праўленьне арцелі выбіраюцца на год, зьяўляецца выканаўчым органам арцелі і загадвае ўсімі яе справамі. Праўленьне, разьмяркоўваючы паміж сваімі членамі абавязкі па кіраўніцтву гаспадаркай і вытворчасьцю арцелі, ускладвае на адпаведных членаў праўленьня поўную адказнасьць за даручаную ім справу і надае ім патрэбныя для гэтага правы. Праўленьне абавязана весьці птушніцтва па формах і правілах, устаноўленых калгаснай сыстэмай.

Рэвізійная камісія правярае дзейнасьць праўленьня, у прыватнасьці, захаваньне статуту, выкананьне вытворчага пляну, дагавароў і абавязацельстваў перад дзяржавай, робіць рэвізію касы, маемасьці, дакумантаў і справаздачнасьці, дае заключэньні па гадавых справаздачах і робіць справаздачы аб сваёй дзейнасьці перад агульным сходам (або сходам упоўнаважаных).

### 10. Узаемаадносіны з калгаснай сыстэмай

Арцель уваходзіць членам у . . . . . . . . . . . . калгаснае аб'яднаньне і вядзе сваю работу пад яго непасрэдным кіраўніцтвам. На аснове свайго вытворчага пляну арцель заключае з . . . . . . калгасным аб'яднаньнем дагавор аб кантрактацыі, якім устанаўляюцца абавязацельствы арцелі па арганізацыі с.-г. вытворчасьці і плянавай здачы ёю таварнай прадукцыі дзяржаве і каапэрацыі, а таксама абавязацельствы калгаснага аб'яднаньня і інш. дзяржаўных і каапэрацыйных органаў па забесьпячэньні арцелі сродкамі вытворчасьці і прадметамі спажываньня і па арганізацыі крэдытнай дапамогі і агра-тэхнічнага абслугоўваньня арцелі.

---

Адк. рэд. П. Рачыцкі. Рэдактар—Рэдкалегія.

## ЗЬМЕСТ

*Стар.*



### Жывёлагадоўля



### Сад і гарод



### Чарговыя веснавыя працы



### Калгасныя лісты.



---

**Малюнак на вокладцы:**

**Першы ўдой ад абагуленае жывёлы (колгас „Энгельс“, Уваравіцкага раёну, Гомельскай акругі).**

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 год

## НА ЧАСОПІС

**Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна, Народнага Камісарыяту Земляробства і саюзу с.-г. і лясных працаўнікоў**

# „СЕЛЬСКАЯ І ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА“

**ў форме двухмесячных выпускаў кніжнага формату.**

ЗАДАЧА ЧАСОПІСУ: асьвятляць пытаньні соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай і лясной гаспадаркі, грунтуючыся на выніках працы навуковых і дасьледчых установаў БССР і СССР.

ЧАСОПІС ДАПАМОЖА: масавым зямельным спэцыялістым (кіраўнікам саўгасаў і калгасаў, аграномам, жывёлаводам, лесьнічым, каапэратарам, каморнікам, мэліоратарам і г. д.) выконваць пяцігодку ў 4 гады.

У ЧАСОПІСУ ЗЬМЯШЧАЮЦЦА: арыгінальныя экспэрымэнтальныя працы па калгаснаму і саўгаснаму будаўніцтву, па асобных галінах агрономіі, жывёлагадоўлі, лясной справы, па тэхнічнай перапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў; рэфэраты саюзных і чужаземных навукова-агранамічных прац; навуковая інфармацыя; сельска-гаспадарчая хроніка; бібліографія і інш.

У ЧАСОПІСУ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ: загадчыкі аддзелаў і вучоныя спэцыялістыя Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту, прафэсары, дацэнты і выкладчыкі Беларускай С.-Г. Акадэміі, працаўнікі дасьледчых Станцый, зямельныя працаўнікі, эканамісты-аграномы БССР, працаўнікі калгассыстэмы, калгасьнікі-дасьледчыкі і г. д.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

**на 1 год (6 нум.)—5 руб., на 6 мес.—2 р. 50 к.**
**Паасобны нумар—1 р. 20 к.**

**За ўвесь 1927 год высылаецца камплект (3 нум.)—2 р. 50 к. і за 1928 год (6 нум.)—5 руб.**

**Падпіска прымаецца:**

**у выдавецтве НКЗ (Савецкая, 71, Менск) і на кожнай пошце.**

*АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Шырокая, 28.*

**Цана 20 кап.** 431



# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

Часопіс соцыялістычнага землеробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

**ЧАСОПІС**

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

**ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.**

**ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ**

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікоў калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | | |
|---|---|---|
| На год | . . . . | 2 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў | . . . | 1 р. 10 к. |
| На 3 м-цы | . . . | 60 к. |
| Паасобны нумар | . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б. Тэлефон 17-15.



Друкарня БДВ. Заказ № 1475. У ліку 10 000 экз. Галоўлітбел № 1587.